PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 7 (2022) ГОД XL БЕЛАСТОК 12 ЛЮТАГА 1995 г. ЦАНА 50 грошаў (5000 ст. зл.)

*Ада Чачуга*

## У Драгічыне калядна

Што ж гэта было за свята! Больш трыццаці калектываў змагалася 21 студзеня ў Драгічынскім доме культуры на ваяводскім аглядзе калядных калектываў і кожны стараўся, як мог, заімпанаваць журы і сабраным у зале гледачам арыгінальнасцю рэпертуару, выканання, вопраткі, дэкарацыі.

Усё перамяшалася ў своеасаблівым беларуска-польска-царкоўнаславянскім моўным канглямерацэ калядпай песні на Беластоцкай зямлі. Як у калейдаскопе, змяняюцца на сцэне калектывы. Дарослыя і дзеці. Моладзь і бабулі. Асобна і разам. Хто каго пераможа?!

А змагацца было за што. Найлепшыя ж пасдуць у будучым годзе на міжваяводскі агляд, у якім возьмуць удзел калядныя калектывы аж з сямі ваяводстваў: Беластоцкага, Сувальскага, Ломжынскага, Альштынскага, Сядлецкага, Бела-падляшскага і Астралэнцкага. На міжваяводскі агляды лепшыя калектывы тыпуюцца з гадавым апераджэннем.

Сёлетні ваяводскі агляд калядных калектываў меў чатыры этапы. Спачатку ў Кнышыне адбыўся першы этап — агляд традыцыйнай песні (8 студзеня), пасля два этапы ў Чорнай-Беластоцкай, дзе 14 студзеня быў конкурс сучаснай каляднай песні і, на другі дзень, агляд "jaselek" (батлеек).

І вось цяпер, у Драгічыне, адбываецца працяг конкурсу традыцыйных калядак, у якім бяруць удзел мясцовыя польскія і ўсе беларускія калектывы Беласточчыны.

Фальклорныя калектывы высока цэняцца знаўцамі народнага мастацтва. Нядаўна вядомы акцёр і рэжысёр Адам Ганушкевіч для сваёй пастаноўкі „Дзядаў" (II часткі) выбраў Юзафа Шэпятоўскага для ролі „Гэрода" з калектыву з вёскі Вяжхуцы, што каля Драгічына, а таксама цэлы калектыў „Пашкавяне" з Мілкавіц-Пашкаў. Каб было больш аўтэнтызму, шукаў народныя таленты і з запрапанаваных выбраў гэтыя. Адразу ж пасля выступлення на аглядзе Юзаф Шэпятоўскі „паланезам" бурмістра высхаў у Варшаву, дзе вечарам у тэатры „Новым" меў адбыцца спектакль. „Пашкавяне" ўжо там былі і, не могучы выступіць у конкурсе, прыслалі толькі віншавальную тэлеграму.

Ну, але нас цікавілі перш за ўсё беларускія калектывы. Каб нікому не было крыўдна, спрабую іх пералічыць. Выступілі: „Вульчанкі" з Вулькі-Тэрахоўскай, калектыў з Чаромхі-вёскі, „Журавінкі" з Агароднічкаў, „Красуні" з Краснага Сяла, дзіцячы калектыў з Дашоў, маладзёжны і калектыў дарослых з Дабрывады, „Незабудкі" з Курашава і дзіцячы калектыў адтульжа, „Згодныя макі" з Райска і „Арэшкі" з Арэшкава (абодва калектывы — лаўрэаты мінулагодняга ваяводскага агляду), „Чыжавяне" і дзіцячы калектыў з Чыжоў, дзеці з Кленік, „Мельнічанкі" з Мельніка, „Цаглінкі" са Старога Ляўкова, новы калектыў з Паўлаў, маладзёжна-дзіцячы хор з Заблудава, маладзёжны калектыў з Рыбалаў. Прабачце, калі некага прапусціла!



*У "Красуняў" з Краснага Сяла моцныя, чыстыя галасы. Вядома, журы гэта заўважыла.*

Кожны калектыў стараўся даць ад сябе ўсё. Адзін перад другім, імкнуліся паказацца інакш, своеасабліва. „Журавінкі" з Агароднічкаў трымалі на руках „дзіця", „Згодныя макі" з Райска ўнеслі на сцэну кавалак сцяны з акенцам, перад якім спявалі калядкі і праз якое гаварылі з „гаспадарамі". Вельмі маляўніча выглядалі дзеці з Дашоў: у павывaрочваных кажухах, падпярэзаных, каб было цяплей, у старых шапках-вушанках, з закручанымі на шыі шалікамі!

Амаль усе беларускія калектывы выступілі са звяздой. Што датычыць калядных песень, дык як на такую колькасць калектываў паўтарыліся яны ледзь пару разоў („Ныне, Адаме", „Неба і зямля", „Раджэство Хрыстова", „Я умом хадзіла"). Якое багацце рэпертуару! Якія моцныя, чыстыя галасы — хаця б у „Красуняў" з Краснага Сяла. Такія павінны быць вясковыя калектывы, сказаў вядомы беластоцкі музык Ежы Сьрудкоўскі, белыя галасы!

Дзеці з Кленік заспявалі калядкі пасучаснаму, з акампанементам сінтэтызатара, а маладзёжна-дзіцячы хор, які працуе пры Заблудаўскай царкве, выступіў з нотамі ў руках. Прагрэс уваходзіць у традыцыю!

А малады калектыў з Паўлаў зрабіў фурор сваімі зладжанымі спевамі і, асабліва, арыгінальнымі гаспадарчымі зычаннямі на цэлы новы год, аўтаркай якіх была 72-гадовая Анна Раманюк. Калектыў выступіў публічна

*Працяг на стар. 8*



*Вельмі маляўніча выглядалі дзеці з Дашоў.*

## Каб я быў Сорасам

**Размова з МІКАЛАЕМ БУШКАМ, дырэктарам Гайнаўскага дома культуры, арганізатарам і дырэктарам міжнародных фестываляў царкоўнай музыкі ў Гайнаўцы, вялася ў палове студзеня.**

*— Вы ўжо рыхтуецеся да наступнага фестывалю. Каторы гэта будзе?*

— Гэта ўжо чатырнаццаты па чарзе, а пяты міжнародны. Пройдзе ён у днях 14—21 мая. Зразумела, падрыхтоўка ідзе ў нас ужо поўным ходам. Мы цяпер на этапе збірання сродкаў. Во, я абклаўся паперамі, пішу ў розныя ўстановы, фонды, як Польска-нямецкі Баторыя. Хаця ўсё больш ахвотных на іхнія грошы і штораз цяжэй адтуль нешта выцягнуць.

*— А колькі на такі фестываль трэба?*

— Каб я быў Сорасам, дык я мог бы ўлажыць у яго вялікія мільярды, даў бы зарабіць арганізатарам, заплаціў бы выканаўцам і г.д. Такі фестываль, практычна, не мае дна. Але, паколькі я не Сорас, даводзіцца на ўсім ашчаджаць. Я, напрыклад, не бяру ні залатоўкі за тое, што вяду канцэрты, ні за функцыю дырэктара, ні за праекты, ні за рэжысуру. Таксама мае працаўнікі і многія іншыя заангажаваныя асобы не атрымоўваюць ганарараў за тое, што апякуюцца хорамі, за працу сакратарак ці таму падобную. Таксама ўдзельнікі прыязджаюць на свае грошы, а мы толькі забяспечваем іх жыллём і харчамі. Пра канкрэтныя сумы цяжка гаварыць. Вось сумна, што, напрыклад, Ваяводскі асяродак анімацыі культуры, які не выканаў сваіх мінулагодніх абяцанняў, паінфармаваў нас, што ў гэтым годзе не зможа фінансава дапамагчы. Яны неслі тэхнічную дапамогу, друкавалі розныя матэрыялы, рабілі фотаздымкі. Чатыры месяцы перад фестывалем практычна адмовіліся ад суарганізатарства. Па-мойму, так не робіцца. Беластоцкі ваявода ўтрымоўвае свой фінансавы ўдзел на ўзроўні 1991 года. Пасля маёй інтэрвенцыі павысіў суму на 20%, г.зн. да 120 мільёнаў (у старой валюце). Каб яшчэ цэны з гэтага часу павысіліся толькі на 20%. Усё гэта проста ірацыянальнае і для мяне незразумелае. Фестываль царкоўнай музыкі з'яўляецца ж адзінай такога тыпу імпрэзай не толькі ў ваяводстве ці краіне, але і ў свеце. Таксама нашу Гарадскую раду папрасіў я 200 мільёнаў датацыі, а яны прызналі палову*). На такую імпрэзу гэта проста смешна, улічваючы, якой рэкламай для горада з'яўляецца наш фестываль. Не гаворачы ўжо пра тое, што прыносіць канкрэтны даход жыхарам горада. Удзельнікаў, гасцей і прыезджых гледачоў трэба ж накарміць, пераначаваць. Прыкра, што арганізуючы такое цудоўнае мерапрыемства трэба столькі займацца грашамі, паперамі. Ну, але ад гэтага нідзе не дзенешся.

*Працяг на стар. 8*

# МЫ ПРАЧЫТАЛІ

*W polskich szkołach narasta fala terroru. Starsi i silniejsi dręczą słabszych, a najmniej pewni siebie znęcają się nad dziećmi upośledzonymi. Prześladowani uczniowie boją się przychodzić na lekcje. Wielu z nich regularnie zażywa środki uspokajające. Nauczyciele winą za wzrost agresji próbują obciążyć wszystkich, z wyjątkiem szkoły i samych siebie. Policja stara się bagatelizować problem lub zasłania się brakiem funkcjonariuszy. W tej sytuacji w niektórych szkołach, terroryzowanych przez gangi młodocianych przestępców i handlarzy narkotyków, do pilnowania porządku wynajmuje się ochroniarzy.*

*(Wprost, nr 4)*

Атмасфера нянавісці, як відаць, найхутчэй закранула дзяцей і моладзь.

* * *

*18 stycznia około drugiej w nocy bramkarze białostockiego klubu „Eden" obezwładnili trzech funkcjonariuszy Urzędu Ochrony Państwa. Jeden z nich twierdził, że ma dość panującego w lokalu języka rosyjskiego i chciałby z kimś porozmawiać po polsku. Drugi podszedł do bramkarza i powiedział mu, że zaraz wszystkich powystrzela, a jego pierwszego.*

*(Kurier Poranny, nr 15)*

Дзякуючы свабодзе слова, сёння можам даведацца нават пра гульні афіцэраў бяспекі.

* * *

*Zaczynam zastanawiać się, czy panowie Jerzy Chmielewski i Antoni Mironowicz są Białorusinami czy Wielkorusami. Bo gdyby byli Białorusinami to nie powinni chwalić renegata Józefa Siemaszki, za kasatę Kościoła unickiego. Białoruskość panów Chmielewskiego, czy Mironowicza jest raczej taktyką, strategią natomast pozostaje moskalofilia,* — піша каталіцкі актывіст з Кракава Генрык Бянкевіч.

*(Słowo. Dziennik Katolicki, nr 15)*

Паводле Бянкевіча беларусы павінны хваліць берасцейскую унію і яе стваральнікаў — езуітаў і праваслаўных рэнегатаў, якія за абяцанкі здрадзілі свайму веравызнанню. Беларусы не павінны таксама ўспамінаць лёс тых, якім не даспадобы было раптоўнае пераўтварэнне з праваслаўнага ў католіка. Усё дзеля экуменізму.

* * *

*Na północno-wschodnich rubieżach Najjaśniejszej i na rządowych biurkach rozgrywa się cicha, choć zajadła wojna. Naprzeciw siebie stoją Kościół katolicki i Kościół prawosławny. Wojują o klasztor w Supraślu.*

*We wdzięcznej pamięci ojców Kościoła katolickiego zapisze się premier Waldemar Pawlak. Wicedyrektor jego gabinetu napisał do wicedyrektora gabinetu szefa URM — Strąka, tylko trzy zdania. Ale jakie! „W załączeniu przesyłam materiał dotyczący klasztoru w Supraślu, informując, że zapoznał się z nim Pan Premier. Zdaniem Prezesa Rady Ministrów, zespół klasztorny powinien zostać przeznaczony na cele ogólne, nie dla potrzeb hierarchii prawosławnej. W związku z tym, uprzejmie proszę o podjęcie stosownych działań, zgodnych z sugestiami katolickiego Arcybiskupa Białostockiego".*

*(Nie, nr 3)*

I kto tu rządzi w tej remizie?

* * *

*W 1994 r. cena cukru wzrosła o 45%, masło podrożało o 80%, a ziemniaki o 182%.*

*(Wprost, nr 4)*

Плата ўзрасла на 15% і такім чынам ежа стала смачнейшая.

* * *

*„Solidarność" bierze przykład z Włoch. Marian Krzaklewski zapowiada, że związek powita wiosnę wielkim marszem na Warszawę (tam był „marsz na Rzym"), w którym weźmie udział kilkaset tysięcy demonstrantów.*

*(Polityka, nr 3)*

* * *

*Беласточчыну ў канцы мінулага года наведаў намеснік міністра культуры і мастацтва Польшчы Міхал Ягела... Паведаміў ён, што беларускае асяроддзе атрымае 3 400 мільёнаў злотых, у тым ліку 1 400 мільёнаў — рэдакцыя тыднёвіка „Ніва". Асталіся не заўважанымі ў інфармацыі міністра беднае БГКТ у Беластоку і Грамадскі камітэт пабудовы музея ў Гайнаўцы. На сваю дзейнасць ужо ад некалькіх гадоў ні Беларускае таварыства, ні Камітэт не атрымліваюць грошай,* — піша старшыня Рэвізійнай камісіі БГКТ Уладзімір Юзвюк.

*(Голас Радзімы, н-р 2)*

Старшыня Рэвізійнай камісіі мае вельмі слабую памяць. У „Беларускім календары" за 1994 г. (с. 52) ён сам дэталёва прадстаўляе, якія сумы атрымлівала Таварыства і Камітэт пабудовы музея ў апошніх гадах. Калі ідзе пра „Ніву", тады інфармуем, што ўсе нашыя супрацоўнікі ездзяць на працу „Фордамі", але ўжо думаюць, каб у гэтым годзе памяняць іх на „Ролс-ройсы".

* * *

*Szacuje się, że na 4 wyższych uczelniach Białegostoku studiuje obecnie 190 naszych rodaków zza wschodniej granicy. Najwięcej polonusów, bo aż 115 studiuje na Filii Uniwersytetu Warszawskiego, przy czym 98 to Białorusini. „Wspólnota Polska" utworzyła ośrodek szkolenia zaocznego w Grodnie, gdzie uczęszcza 57 osób. Dojeżdzają tam pracownicy naukowi z Białegostoku.*

*(Gazeta Współczesna, nr 13)*

У 1994 г. у Беластоку адкрывалі і беларускую філалогію, але недзе яна прапала.

* * *

*Stany Zjednoczone, gdy na terenie ich strefy wpływów grozi zamieszanie lub naruszenie równowagi interesów, nie wahają się przed najbrutalniejszymi interwencjami (i to w sprawy wewnętrzne niepodległych państw), jak w Grenadzie, Haiti, Nikaragui. Ci co nam bruźdżą, w propagandzie amerykańskiej to „antydemokraci i bandyci". Dlatego argumenty Rosjan, którzy załatwiają sprawę wewnątrz swoich granic wydają się im bardzo przekonywujące.*

*(Polityka, nr 3)*

* * *

*Выступаючы 13 студзеня на сэсіі Вярхоўнага Савету ў „розным" дэпутат Генадзь Карпенка заявіў: „Да якой ганьбы мы дайшлі са сродкамі масавай інфармацыі! Перапыненая трансляцыя паседжаньняў сэсіі Вярхоўнага Савету, забароненыя публікацыі артыкулаў, закрытыя газэты. Прэзыдэнт называе сябе „единым вершителем власти": ён цар і бацька, у яго шалёная ўлада. Гадуем мы новую хваробу, замест культу асобы — шаленства бацькі".*

*(Свабода, н-р 3)*

# З мінулага тыдня

**Віцэ-прэм'ер, міністр фінансаў Гжэгаж Калодка і віцэ-прэм'ер Расейскай Федэрацыі, міністр гаспадарчых адносін з замежжам Алег Давыдаў падпісалі ў Варшаве пагадненне ў справе пагашэння ўзаемнай задоўжанасці з прычыны паставак тавараў і фінансавых разлікаў паміж урадамі Польшчы і Расеі.** Была прынята „опцыя нуль плюс". Польшча заплаціць Расеі каля 150 млн. долараў у каштоўных паперах, а Расея заплаціць нашай дзяржаве каля 175 млн. долараў наяўнымі.

**Афіцыйная дэлегацыя Рэспублікі Беларусь на чале з прэзідэнтам Аляксандрам Лукашэнкам** прымала ўдзел ва ўрачыстасцях з нагоды 50-годдзя вызвалення фашысцкага канцэнтрацыйнага лагера ў Асвенціме. У час візіту прэзідэнт правёў у Кракаве шэраг афіцыйных і неафіцыйных сустрэч з кіраўнікамі дзяржаў. Адбыліся афіцыйныя сустрэчы з прэзідэнтам Польшчы **Лехам Валэнсам**, спікерам расейскай Думы **Іванам Рыбкіным**, прэзідэнтам Саюзнай Рэспублікі Югаславіі **Зоранам Лілічам** і прэзідэнтам Балгарыі **Жэлю Жэлевым**. Адбыліся таксама і неафіцыйныя гутаркі з прэзідэнтамі Літвы — **Альгірдасам Бразаўскасам** і Украіны — **Леанідам Кучмой**.

**Улады горада Беластока** няспынна намагаюцца вывесці **Галоўнае праўленне Беларускага грамадска-культурнага таварыства** з будынка пры вул. Варшаўскай 11 з прычыны задоўжанасці за арэнду. Апошнім часам Управа камунальнай маёмасці выступіла з пісьмовым патрабаваннем пакінуць будынак да 6 лютага г.г. У адказ члены БГКТ сталі збіраць сярод жыхароў горада подпісы пад пратэстам супраць такога рашэння гарадскіх улад.

**Кардынал Казімір Свёнтак** — арцыбіскуп Менска-Магілёўскі наведаў Беласток і ўдзельнічаў ва ўрачыстасцях у яго гонар у беластоцкай кафедры.

**Узнагароду імя князя Канстанціна Астрожскага** за выдатныя дасягненні ў распаўсюджванні і развіцці праваслаўнай думкі і культуры, а таксама ў дзейнасці ў карысць аб'яднання хрысціян ужо шосты год прысуджае рэдакцыя месячніка „Przegląd Prawosławny". У гэтым годзе лаўрэатамі сталі: **Мікалай Бушка** — дырэктар Гайнаўскага дома культуры, арганізатар і кіраўнік Міжнароднага фестывалю царкоўнай музыкі, а. **Юры Шурбак** — кіраўнік і дырыжор Ансамбля царкоўнай музыкі Варшаўскай апэрэты, праф. **Віктар Роуда** — кіраўнік і дырыжор Хору Дзяржтэлерадыё ў Менску і **Пэтэр Вітавец** — швейцарскі папулярызатар Праваслаўя на Захадзе.

**Джэральд Андэрсан** — I сакратар Пасольства ЗША наведаў Беласток, дзе сустрэўся з ваяводам **Анджэем Гаеўскім**, прэзідэнтам горада **Анджэем Люсам** і архіепіскапам **Савам**. Госць цікавіўся станам беластоцкага будаўніцтва і іншых галін гаспадаркі.

**Падчас танцаў у вясковым клубе ў Тапалянах** (Міхалоўская гміна) успыхнула бойка, у якой пацярпела шэсць чалавек. Трох з іх — пасля перавязання ран — адправілі дадому, а астатніх трох палажылі на аддзяленне інтэнсіўнай тэрапіі. Праўдападобна бойку ўзнялі дзесяць беластачан, якія прыехалі на вясковую дыскатэку з бейсбольнымі палкамі.

# ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ"

- Сход Беларускага саюза ў Польшчы.
- Юрка Трачук змагаецца з цэнзурай у „Ніве".
- Кашмарныя сны беларускіх нацыяналістаў.
- Чаму ў Беластоку не любяць мінскага тэлебачання.

Шчырае спачуванне
**Яну і Аляксандру Максімюкам**
з прычыны
напаткаўшага іх гора —
смерці
**БАЦЬКІ**
выказвае
рэдакцыйны калектыў
„Нівы"

# ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

## Цярпенне народа не бязмежнае

Агульнарэспубліканская акцыя пратэсту, арганізаваная Федэрацыяй прафсаюзаў Беларусі, прайшла ў сталіцы на плошчы Свабоды. Рабочыя і інжынеры, медыкі і настаўнікі, работнікі іншых галін і пенсіянеры сабраліся, каб мець права на свабодную працу, на далейшае жыццё для сябе і сваіх дзяцей. Далейшы крызіс у эканоміцы, развал прамысловасці і сельскагаспадарчай вытворчасці, рост цэнаў на транспарт і электраэнергію давялі большую частку насельніцтва да галечы. Беларусь знаходзіцца ў крытычным стане і, як лічаць удзельнікі мітынгу, настаў час спытацца ва ўрада, што неабходна рабіць і як жыць далей. Вынікі акцыі пратэсту падвёў на прэс-канферэнцыі лідэр ФПБ Уладзімір Ганчарык, які заявіў, што прапановы па выхаду з крызіснай сітуацыі перадаюцца прэзідэнту, Кабінету Міністраў і Вярхоўнаму Савету. Калі на працягу двух тыдняў пройдуць канструктыўныя перагаворы з уладамі па ўсім комплексе праблем, то адбудзецца падпісанне генеральнага пагаднення на гэты год, якое было адкладзена з-за няўзгодненасці асобных яе палажэнняў. У адваротным жа выпадку Федэрацыя прафсаюзаў правядзе галасаванне ў працоўных калектывах аб усеагульнай забастоўцы. І, атрымаўшы згоду людзей на гэтую крайнюю меру, будуць выстаўлены ўжо больш жорсткія патрабаванні, аж да недаверу ўраду і яго адстаўкі.

## Змяншаецца лік насельніцтва

Да пачатку года ў рэспубліцы склаўся адмоўны баланс з узнаўленнем насельніцтва. Памірае грамадзян больш, чым нараджаецца, прычым толькі 10% нованароджаных — здаровыя. Паўсіць індэкс грамадскага здароўя можна пры дапамозе якаснага харчавання.

## Антончык хоча прамаўляць

Дэпутат Вярхоўнага Савета Сяргей Антончык падаў пісьмовую прапанову ў сакратарыят сесіі ВС заслухаць яго новы даклад. Ён выказаў надзею, што яму будзе дадзена магчымасць выступіць у парламенце да 16 лютага. Антончык разлічвае, што даклад займе 1,5 гадзіны і будзе прысвечаны пытанням адпаведнасці заканадаўству некаторых рашэнняў урада і адміністрацыі прэзідэнта. Апальны дэпутат на папярэдняй сесіі выступіў з дакладам аб карупцыі ў радах прэзідэнцкай каманды.

## Самастойнасць Булахава

Лідэрам Партыі ўсебеларускага адзінства і згоды стаў Дзмітрый Булахаў. Узначальвае ён парламенцкую камісію па заканадаўству і з'яўляецца прадстаўніком прэзідэнта ў Вярхоўным Савеце. Мяркуючы па ўсім, напярэдадні парламенцкіх выбараў Дзмітрый Пятровіч выбраў абраць самастойны шлях.

## Будзе аўтамагістраль

Аўтатранспартнікі Нямеччыны арганізавалі ў Берліне сустрэчу вядучых спецыялістаў міністэрстваў транспарту Беларусі, Польшчы і Расеі. Галоўнай яе мэтай было падпісанне парафіраванага ў лістападзе 1994 г. у Варшаве мемарандума аб намерах мадэрнізацыі транспартнага калідора Берлін — Варшава — Менск — Масква. На сустрэчы прысутнічалі таксама прадстаўнікі зацікаўленых еўрапейскіх міжнародных арганізацый, ведамстваў, банкаўскіх колаў, ад якіх у многім залежыць фінансаванне гэтага праекта.

## Раздзяржаўленне маёмасці

На дзесятым ужо аўкцыёне ў Брэсце было выстаўлена 15 аб'ектаў камунальнай уласнасці. Як заўсёды найбольшую цікавасць пакупнікоў мелі прамтаварныя і харчовыя магазіны, кафэ, якія знаходзяцца ў выгадных месцах горада. Аднак самая вострая барацьба разгарэлася за права валодання будынкам былой кацельні з вялікай вытворчай плошчай і зямельным участкам. На гэты аб'ект прэтэндавалі 6 пакупнікоў. На думку спецыялістаў, менавіта аўкцыёны даюць магчымасць выявіць рэальны рынкавы кошт аб'ектаў камунальнай уласнасці.

## На фальшывых дакументах

Не змяншаецца колькасць жадаючых перасячы заходнюю мяжу на падробленых дакументах, прычым парушальнікі дзейнічаюць вельмі хітра. Нядаўна, напрыклад, у кантрольна-прапускным пункце Брузгі, беларускім пагранічнікам сумесна з польскімі калегамі прыйшлося шмат папрацаваць, каб выявіць высокакваліфікаваную падробку польскага пашпарта, з якім ехаў грамадзянін Беларусі. А вось у пункце пропуску Варшаўскі Мост грамадзянін Ірана прад'явіў пагранічнікам пашпарт неіснуючага СССР.

## Як на спірце гарыць

Незвычайнае здарэнне адбылося на чыгуначным вузле ў Брэсце. Тут паблізу вакзала загарэўся пасажырскі вагон з людзьмі. Агню дапамог спірт. Дзесяткі бутэлек спірту нехта кантрабандным шляхам хацеў перавезці за мяжу. На шчасце абышлося без чалавечых ахвяр.

# З меншасцямі

**Давялося мне сустрэцца ў Ольштыне з упаўнаважаным Ольштынскага ваяводы па справах нацыянальных і рэлігійных меншасцяў Віктарам Маркам Лейкам.**



У 1985—89 гадах быў ён пaслом у Сейм. Заснаваў квартальнік „Dialogi Ekumeniczne”, дзейнічаў у Саюзе хрысціянскай моладзі (YMCA), які гуртуе 30 мільёнаў маладых людзей з усяго свету. Ёсць ён сёмым членам еўрапейскіх улад YMCA і праўлення Нямецка-польскага абмену моладдзю. Ад 15 лістапада 1994 г. В.М. Лейк — упаўнаважаны ваяводы па справах меншасцяў, пражываючых на Варміі і Мазурах. У спадара Лейка тры заданні — дапамагаць, выкарыстоўваючы ўсе магчымасці ў кампетэнтнасці ваяводы, выходзіць з боку адміністрацыі насупраць ініцыятывам, прэзентаваць погляды ваяводы на справы меншасцяў.

— Адным словам — буду старацца дбаць пра адпаведныя адносіны да меншасцяў, — сцвердзіў спадар Лейк. — Часта яны адчуваюць сябе групамі дыскрымінаванымі, непаўнацэннымі.

— Як мне вядома, тут найбольшая меншасць — украінская, але ёсць яшчэ мазуры, вармякі, немцы... — пералічыў я.

— Вармякаў і мазураў засталося ў нашым рэгіёне недзе каля дзесяці тысяч. А немцаў? Паводле падлікаў доктара Альфрэда Чэслі, ад рускай мяжы аж да Слупска пражывае іх каля дваццаці тысяч. У мяне ёсць звесткі, што ў самым нашым ваяводстве немцаў больш дваццаці тысяч. Ёсць у нас і беларусы, лікам у 4—5 тысяч. У Ольштыне дзейнічае тэрытарыяльная рада Беларускага дэмакратычнага аб'яднання. Наступная этнічная група — каля 500 чалавек ромаў (цыганоў). Ёсць і сем'і літоўцаў, можна сустрэць і рускіх, балгараў, ажэненых з альштынянкамі...

— Перад вайной тут было шмат яўрэяў.

— Я не чуў пра іх у нашым ваяводстве. Ва ўсёй краіне іх ёсць недзе каля дзесяці тысяч, яны часта ўжо асіміляваліся, не прытрымоўваюцца сваёй рэлігіі, але захавалі пачуццё супольнасці з яўрэйскай традыцыяй і культурай. Я, як сакратар Таварыства сяброў Польшча-Ізраіль маю добрыя кантакты з яўрэйскім асяроддзем. Ёсць сярод іх і католікі, ёсць пратэстанты, ёсць і атэісты.

— Мяне цікавяць праявы дыскрымінацыі. Ці не найчасцей адчуваюць яе цыганы?

— У польскім грамадстве існуюць адмоўныя стэрэатыпы адносна ромаў. Але з іншага боку — палякаў захапляе цыганская культура, фантазія. Вядома, сярод ромаў, як і ў іншых грамадскасцях, ёсць людзі розныя. Гляньма на іх, людзі, нармальна, без прадузятасцей, з павагай і талерантнасцю для нацыянальнай і культурнай адметнасці. Тады ўбачым праўду.

— І перад вайною, і цяпер тут — кангламерат нацыянальнасцяў.

— Трэба памятаць, што Польшча як дзяржава была ў росквіце, калі кожная нацыя, кожнае веравызнанне мела ўсё сваё месца і правa. Кожны быў у сябе. Стваралі шматнацыянальную культуру, аддавалі крою і жыццё ў яе абароне...

Супрацоўніцтва меншасцяў у Ольштыне, на маю думку, ёсць быццам малым узорам еўрапейскага яднання.

Гэта дае ўзбагачэнне культуры грамадства, пашырае гарызонты індывідуальнага чалавека, адкрытага на свет. Ваяводствы, нацыянальна аднародныя, павінны нам гэтага зайздросціць!

**Андрэй Гаўрылюк**
**Фота Бернарда Ваўжыновіча**

# Як калісь жылося...

Рашыла я напісаць аб дзяцінстве і юнацтве маёй бабулі. У доўгія восеньскія і зімовыя вечары слухала я апавядаў пра ейны лёс, падобны, як і ўсіх яе аднагодкаў.

Калі казакі прыказвалі нашым людзям уцякаць ад немцаў, бабуля не памятала — была тады немаўлём. У Сібіры пражыла восем гадоў. Успамінала, што рэкі там не надта шырокія, але затое глыбокія, бо там зямля вышэй, чым у еўрапейскай частцы Расіі. — А якія там былі маразы! — расказвала бабуля. — Плюнеш, а сліна не даляціць да зямлі, замерзне. Дома дзень і ноч гарэў у жалезнай печцы каровін памёт. Калі ў печы пагасла, дома нельга было высядзець... Бялізну мылі дома, паласкаць насілі на раку: бралі з сабою вядро гарачай вады, рабілі ў лёдзе прорубку. Калі мерзлі рукі, саджалі іх у тое вядро і грэлі. Зіма прыходзіла ў Пакроў, трымала аж да Вялікадня, калі пачынаў калоцца лёд.

Бульбы садзілі мала, бо не паспелі б яе выкапаць. Калі хто пасадзіў дваццаць вёдзер картоплі, то суседка казала суседцы: „Будет и тебе, девка, будет и мне” (там жанчына жанчыну дзеўкай называла). Пшаніцы сеялі многа, садзілі дыню. Дзеці дапамагалі бацькам ува ўсіх работах. Ніхто не наракаў, што хлеба няма. Мо і засталіся б нашы ў Сібіры назаўсёды ды баяліся жыць у Расеі ў час рэвалюцыйнай разні. Белыя білі чырвоных, чырвоныя — белых, а вёскі гарэлі. Настаў голад. Улады не забаранялі бежанцам вяртацца на радзіму. Запакавалі яны пасцель, ежу і вопратку ў мяшкі і рушылі да цягнікоў. Ехалі шэсць дзён. Калі прыйшлося пераехаць у Еўропу, машыніст сказаў, што будуць з'язджаць... 60 кіламетраў уніз, каб пасажыры не спалі. Усе страшэнна баяліся і маліліся, каб шчасліва пераехаць мяжу паміж Азіяй і Еўропай, а цягнік ледзь-ледзь сунуўся. Калі даехалі да савецка-польскай мяжы, пагранічнікі ўсё дакладна правяралі, ці ў каго няма золата.

Вярнуліся на галечу. Трэба было ўсё нажываць ад кораня. Не было чым абсеяць і абсадзіць палеткаў. Мая васьмігадовая тады бабуля са сваёй бабай хадзілі па вёсках і жабравалі на жменькі зерня ў тых гаспадароў, якія не былі ў „бежанстве”. Удалося збіць дом і клуню. Хлеў будавалі разам з хатай. Неяк засеялі поле, але землі ў Семяноўцы не вельмі ўрадлівыя. Дзецям не было часу на гульні — працавалі, як дарослыя, у полі, на выгане, у хаце — пасвілі кароў, свіней, авечак, малацілі збожжа, пралі, ткалі... Бабуля ўспамінала, як бацька даў ёй сачэўку палоць у спёку. Дзяўчынка вырве крыху пустазелля, паглядзіць у неба, ці хмары не збіраюцца, зморыць яе сон... Спытаў адзін раз, ці выпалола сачэўку, спытаў у дзень, другі-трэці. Урэшце пайшоў паглядзець як дзіця працуе. Знайшоў яе спячую на мяжы і збіў да сінечы. Вось якую дысцыпліну трымалі ў сям'і.

Цяжка было ўтрымацца са сваіх гаспадарак, і ўсе стараліся дзесьці падзарабіць. Усе ішлі ў Лясную, вёску ў чатырох кіламетрах ад Семяноўкі, наймаліся ў багатых гаспадароў да гартання і капання бульбы, уборкі сена і жніва. Летам, у вольны час, збіралі ягады на продаж, але ў лес дарам не пускалі: трэба было купіць білет за пяць злотых! Калі дзеўка была спрытная, тыя пяць злотых вярталіся ёй за дзень — адзін кошык ягад вагой у пуд каштаваў якраз пяць злотых. Хлопцы таксама зараблялі ў лесе. Найчасцей палолі „школку”-гадавальнік саджанцаў дрэў. Лавілі рыбу для сябе і на продаж.

Наймаліся таксама палоць чыгуначныя пуці. Трэба было прапалоць сваю частку паміж рэйкамі, яе дзве абочыны і адкос, а траву вывезці на вызначанае месца тачкамі. Работа не была лёгкая. Зімой, калі хлопцы кончылі малаціць, а дзеўкі прасці ды ткаць, ішлі працаваць у Нараўку ў гуту шкла.

Спалі мала. Вечарамі сядзелі так доўга, аж вочы ліплі. Прамывалі іх халоднай вадой. Жартавалі. Дзяўчаты на нейкі час пакідалі кудзелю, пераапраналіся ў мужчынскую вопратку, ішлі да любога гаспадара і казалі, каб ішоў на „сходку”, бо прыехаў войт і будзе абмяркоўваць нейкія справы на лузе за вёскай. Мужчына хутка збярэцца, а ў вызначаным жартаўніцамі месцы нікога няма... Хлопцы часта трымалі кампанію з дзяўчатамі, калі тыя пралі, рабілі путы, вяроўкі, плялі сеткі на рыбу, кошыкі, калыскі...

Шмат хто з дарослых мужчын і хлопцаў наймаліся да вывазкі дрэў. Вазілі іх амаль усю зіму і вясну, а зарплату давалі ім у Сёмуху. Не мелі свайго аўса для коней, і адлічваўся ён ім з выплаты.

Карміліся слаба. Ніхто аб мясе нават і не ўспамінаў. Кожны быў рады, калі мог узяць бутэльку малака і вялікую галушку таўканіцы са скваркай.

Але быў час на спевы і танцы. Калі не было посту, тады штотыдня ў нядзелю была забава ў кожнай вёсцы. Хлопцы мелі права бавіцца ў іншай вёсцы, але не дзяўчаты (было б гэта непрыстойна). Калі прыходзіў час управунку, усе дзяўчаты муселі ісці дадому. І ў звычайны, будні дзень быў час увечары сабрацца моладзі і паспяваць перад адпачынкам хоць некалькі песняў.

Моладзь любіла збірацца. У чыёй хаце былі вячоркі, там бацькі давалі вячэру. Прымалі ўсім, чым хто мог. Варылі кашу ці бульбу, багацейшыя частавалі яешняй.

Дзяўчаты за заробленыя грошы стараліся купіць сабе пантофлі, паліто, спадніцу, блузку, сукенку, некалькі хустак-шаліновак. Хлопцы таксама набывалі сабе боты, касцюм, паліто, кашулю. Калі чалавек усё гэта сабе купіў, лічылася, што апрануты ён вельмі добра.

Абутак шанавалі. У царкву ішлі басанож, у руках неслі боты. Перад тым, як увайсці ў храм, мылі ля студні ногі, абуваліся. Зімой хадзілі ў лапцях.

Не раз кажуць пажылыя людзі: „Калісь то народ мучыўся, бо ўсё рабіў уручную”, але зямля — найбольшае багацце селяніна, не ляжала аблогамі.

**Аўрора**



# Беларуская песня-95

Зараз адбываюцца раённыя агляды конкурсу „Беларуская песня-95”. Першы з іх адбыўся 29 студзеня ў кіно „Лотас” у Дуброве-Беластоцкай і другі — 5 лютага ў кіно „Хробры” ў Сямяцічах.

У суботу 11 лютага адбудзецца раённы агляд у сядзібе Галоўнага праўлення БГКТ у Беластоку, па вул. Варшаўскай 11. Пачнецца ён у 15 гадзін.

У нядзелю 12 лютага адбудуцца агляды ў Бельскім і Гайнаўскім дамах культуры. Пачатак а гадзіне 14.

У суботу 18 лютага адбудзецца цэнтральны агляд у спартыўным зале клуба „Влукняж” па вул. Антаноўскай 60 у Беластоку. Пачнецца ён а гадзіне 9. Затым у нядзелю 19 лютага ў тым жа зале ў 15 гадзін пачнецца канцэрт лаўрэатаў сёлетняга конкурсу „Беларуская песня” ды калектыву „Жуpавінка” з Менска.

26 лютага ў 15 гадзін адбудзецца гала-канцэрт у зале клуба „Влукняж” з удзелам лаўрэатаў сёлетняга конкурсу ды калектываў „Сябры” і „Купалінка” з Менска, а таксама салістаў менскага Вялікага тэатра.

**(яц)**

# Прыгажэе жыллёвы пасёлак

Спулдзельчы жыллёвы пасёлак у Нараўцы самы малады. Яму ўсяго крыху больш за тры гады. Заснавалі яго Мікалай Павільч, Андрэй Нядзведзь, Галіна Бяглюк, Ірэна Валкавыцкая, Павел Леўша і Аляксандр Шыманюк. Выспецыялізаванае прадпрыемства з Бельска-Падляшскага пабудавала тры шматсямейныя жыллёвыя блокі, а ў іх — 72 кватэры, — паінфармавала старшыня Нараўчанскага жыллёвага каапeратыва Галіна Леўша.

Вясною тут пасадзяць дэкаратыўныя кустарнікі і пасеюць траву. У адным з будынкаў адкрыюць пасёлачную святліцу. Дваццаць сем'яў атрымаюць прысядзібныя агародчыкі для вырошчвання гароднін.

У пасёлку па вуліцы Новай у Нараўцы пражывае 215 чалавек. Карыстаюцца яны 4 640 квадратнымі метрамі жылплошчы. Пляцовак для пабудовы блокаў па вул. Новай удоваль. Пасёлак будзе павялічвацца. Мясціна тут прыгожая, распалажана паабапал ракі Нараўкі на ўскраіне Белавежскай пушчы.

**Янка Целушэцкі**

# АДЗІН ДЗЕНЬ У МЕНСКУ

Нечакана трапілася мне нагода паехаць у Менск. Нарвежскі і польскі журналісты захацелі пабачыць беларускую рэчаіснасць у адзін дзень, а я меў дапамагчы ім разабрацца ў складанасці тамашніх праблемаў.

Менск прывітаў нас страшлівай завеяй. Снег не падаў, ён проста валіўся з неба. І так было цэлы дзень (23 студзеня). Я заўсёды захапляўся прафесійнасцю савецкіх шафёраў, але пры такім надвор'і маё здзіўленне не мела межаў. Дарог ніхто не расчышчаў і не пасыпаў соллю, а аўтамашыны ўсё-такі ехалі, быццам на двары быў травень, ці ліпень і сонечнае надвор'е.

У памяшканні Беларускага народнага фронту кіраўнік Камісіі па справах кантактаў з замежжам Валянціна Трыгубовіч прадстаўляе нам складаную сітуацыю ў Беларусі. Толькі што вызначылі тэрмін парламенцкіх выбараў — на 14 траўня г.г. Не будзе — паводле закона аб выбарах — адмысловых месц для ветэранаў. Галасаванне павінна прайсці паводле прынцыпу: пераможца бярэ ўсё. Гэта абазначае, што ў аднамандатнай акрузе пераможцам будзе той, хто возьме найбольш галасоў, хаця канкурэнты ўсе разам могуць мець нават 80 працэнтаў выбаршчыкаў за сабой. Каб пабольшыць свае шанцы ў выбарах, БНФ, Беларуская сацыял-дэмакратычная Грамада, Беларуская сялянская партыя, Беларуская хрысціянска-дэмакратычная партыя і Нацыянал-дэмакратычная партыя Беларусі падпісалі кааліцыйны дагавор на 5 гадоў. Будуць яны сумесна ставіць толькі аднаго кандыдата ў кожнай акрузе. Вярхоўны Савет, які пачне працаваць пасля 14 мая, павінен налічваць 260 дэпутатаў, на 100 менш чым парламенты, якія выбіраліся ў час Савецкай Беларусі.

Паводле меркаванняў Валянціны Трыгубовіч, калі г.зв. „прэзідэнцкая вертыкаль" (адміністрацыя) не будзе перашкаджаць у выбарчай кампаніі, і калі вынікі выбараў не будуць сфальшаваны, БНФ павінен стаць пераможцам. Але ўсяго можна спадзявацца з боку „лукашэнкаўцаў", — сказала спадарыня Трыгубовіч. У карысць Фронту ідуць змены ў грамадстве. Кожны цяпер можа пераканацца, хто падчас прэзідэнцкіх выбараў гаварыў праўду, а хто — хлусню. Вайна ў Чачні дазволіла таксама зразумець людзям, якім дабром з'яўляецца свая дзяржава. Нашыя хлопцы не гінуць ужо ў далёкіх краінах за чужыя інтарэсы, — закончыла Валянціна Трыгубовіч.

У час змагання за прэзідэнцкі пост фронтаўская апазіцыя стварыла Ценявы Кабінет Міністраў, а ягоным прэм'ер-міністрам стаў Уладзімір Заблоцкі, намеснік старшыні парламенцкай камісіі па справах гаспадаркі. Кабінет вядзе пастаянны аналіз фінансаў і эканомікі дзяржавы, падрыхтоўвае альтэрнатыўныя праграмы і правярае кампетэнтнасць людзей, якія маюць шанц у будучыні апынуцца пры ўладзе. Думка гэта не новая. Такая сістэма ценявых кабінетаў стваральных апазіцый існуе ў Вялікабрытаніі некалькі дзесяткаў гадоў.

Спадар Заблоцкі прыняў нас у сваім дэпутацкім кабінеце, які знаходзіцца ў былым будынку ЦК КПБ. Гаспадар праінфармаваў нас аб эканамічным становішчы Беларусі. Калі да ўлады прыйшлі былыя камсамольцы, склалі яны народу абяцанне хутка палепшыць яго сацыяльнае становішча. Не мелі яны ніякіх праграмаў, ні прафесійнай падрыхтоўкі, каб навесці нейкія канструктыўныя змены. Даўно мінулі тэрміны, пасля якіх усе грамадзяне Беларусі мелі стаць шчаслівымі і багатымі. Замест таго цэны на спажывецкія прадукты растуць 15 разоў хутчэй, чым плата. Ёсць праблемы з пакупкай ежы з прычыны малых заробкаў. Пра іншыя патрэбы сучаснага чалавека мільёны людзей не могуць нават марыць. У параўнанні з гэтай камандай, якая цяпер пры ўладзе, нават Вячаслаў Кебіч быў геніем. Канстытуцыі яны нават не чытаюць. Іх мара — навесці такія парадкі, як у Расеі, якой заканадаўства зусім іншае, чым у Беларусі. Лукашэнка, які заявіў, што не мусіць звяртаць увагі на пастановы Вярхоўнага Савета, свядома парушыў канстытуцыю, на якую прысягаў. Захады, каб увесці цэнзуру, і камерцыйная дзейнасць людзей з акружэння прэзідэнта з'яўляюцца таксама прыкладамі парушэння канстытуцыі, — прадаўжаў Уладзімір Заблоцкі.

Камсамольцы, якія цяпер прыйшлі да ўлады, прыдумалі сабе стварыць нейкім чынам шчаслівае жыццё ўсім грамадзянам, а калі ўжо гэта здзейсніцца, падараваць людзям рынкавую гаспадарку. Узорам для іх ёсць расейскі крымінальна-бюракратычны рынак, дзе амаль уся маёмасць апынулася ў руках людзей былога савецкага апарату ўлады.

Паводле Заблоцкага рынкавыя механізмы могуць дзейнічаць толькі тады, калі ёсць вялікая колькасць уласнікаў, калі ўзнікнуць умовы развіцця недзяржаўнай маёмасці. Прыватызацыя, аднак, не павінна быць мэтай самай у сабе. Калі дзяржаўная ўласнасць добра працуе і дае прыбытак, не трэба яе разбураць. Сфера прадукцыі не павінна, аднак, так як у камунізме, даваць большасці месц працы. Яна разам з бюджэтнай сферай, якая фінансуецца дзяржавай, магла б канцэнтраваць толькі 40% усіх штатаў. Астатнія 60% працаздольных павінны шукаць грошай у галіне паслугаў. Не колькасць, але рух грошай вызначае тэмпы развіцця гаспадаркі.

Паводле Заблоцкага няма ніякай пагрозы, што Расея абмяжуе пастаўку сыравіны ў Беларусь. Гэтыя тавары найчасцей з'яўляюцца ўласнасцю мафіёйных фірмаў, якім усё адно, каму прадаваць, абы толькі купец грошы плаціў. А Беларусі ўсё адно каму плаціць. Да гэтай пары пастаўкай нафты ў Беларусь займалася 150 расейскіх фірмаў. Канкурэнцыя паміж імі была так вялікая, што бензін у Беларусі быў у некалькі разоў таннейшы, чым у Маскве. Але прэзідэнт Лукашэнка на пачатку студзеня даў дазвол на гандаль нафтай толькі для чатырох дзяржаўных фірмаў. Трэба спадзявацца затым рэзкага павышэння цэнаў на бензін, а ў выніку — і ўсіх іншых прадуктаў.

Мэта дэмакратычнай кааліцыі гэта незалежнасць Беларусі, правы чалавека, рынкавыя рэформы і ніякіх ваенных блокаў з удзелам нашай рэспублікі, — закончыў сваё „экспазе" перад журналістамі прэм'ер-міністр Ценявога Кабінета Міністраў Уладзімір Заблоцкі.

23 студзеня прабываў у Менску міністр замежных спраў Расеі Андрэй Козыраў. У Доме літаратара сустрэўся ён з беларускай інтэлігенцыяй. Пабеглі і мы туды пабачыць, што будзе дзеялася. Але нічога важнага там не сказалі. На вострыя пытанні з залы сусветнай славы палітык даваў цьмяныя адказы. Толькі адзін з расейскіх дэпутатаў заявіў, што Беларусь павінна таксама пасылаць свае войскі ў Таджыкістан і бараніць еднасць і межы краін СНД. Але зала адказала смехам.

Кароткі візіт у рэдакцыі тыднёвіка „Свабода" ўсвядоміў усе складанасці, у якіх апынулася апошнім часам прэса ў Беларусі. Маючы пад кантролем паліграфію, дзяржаўнай адміністрацыі не патрэбна нават цэнзура. Хопіць — так як у выпадку „Свабоды" — забараніць яе друкаваць. Фармальна з прычыны „перагрузкі" друкарні заказамі ці недахопу паперы.

Старшыня БНФ Зянон Пазьняк прыняў нас вечарам пасля вяртання з правінцыі, дзе ён сустракаўся з выбаршчыкамі. Будучыню Беларусі бачыць ён у залежнасці ад таго, як будзе развівацца сітуацыя ў Расеі. Пасля Чачні ўсё можа здарыцца. Прэзідэнцкія выбары ў Беларусі старшыня БНФ акрэсліў як бліскучую перамогу расейскіх спецслужбаў. Лукашэнка вядзе палітыку дэстабілізацыі беларускай дзяржавы. Разбурэнне дзяржаўнасці вядзецца шляхам змены кадраў, ліквідацыі лакальных саветаў, узмацнення паліцэйскіх сіл, поўнай русіфікацыі арміі, кантролю сродкаў масавай інфармацыі людзьмі прэзідэнта. Ніякія прытым законы не дзейнічаюць. Ніхто на іх не звяртае ўвагі. Такая сістэма — гэта спецыфіка хунты. За тры апошнія гады была раскрадзена ўся васнная маёмасць Беларусі. А было гэтага нямала — медыкаментаў і амуніцыі хапіла б на 40 гадоў бесперапыннай вайны.

Лукашэнку Пазьняк ахарактарызаваў як чалавека пазбаўленага ўсялякай адказнасці. Амаль усё тое, што гаворыць, не супадае з тым, што робіць. Зусім нельга прадбачыць яго рашэнні. На пытанне, ці паводле кіраўніцтва БНФ пашырэнне Паўночнаатлантычнага дагавора забяспечыць стабільнасць Усходняй Еўропы і незалежнасць Беларусі, Пазьняк адказаў: „У ніякім выпадку. Калі Польшча будзе ў НАТО, Расея пастараецца яшчэ больш актыўна „бараніць" Беларусь ад Захаду і фактычна ўзнікне польска-расейская мяжа па Бугу. Не будзе гэта, здаецца, прыемным для Польшчы".

Так больш-менш выглядае беларуская рэчаіснасць у вачах апазіцыі. Урадавы пункт гледжання кожны дзень прадстаўляецца па тэлебачанні.

Аставалася 2 гадзіны да ад'езду цягніка ў Польшчу і быў час, каб з'есці нейкі абед. У рэстаране „Акварыум" сапраўды прапануецца шмат гатункаў рыбы. Але цэны недзе ўдвая вышэйшыя, чым у Польшчы. За кавалак рыбы з бульбай і шклянку чаю трэба заплаціць 5 долараў. Сярэдняя зарплата ў Беларусі — 25 долараў. Рэстаран гэты лічыўся аднак вельмі танным. Як паяснілі нам менскія знаёмыя, ёсць у горадзе рэстараны, у якіх, каб з'есці нармальны абед, грамадзяніну прыйшлося б працаваць паўгода. Але ёсць людзі, якія і там бываюць частымі гасцямі. Як прынцып не бываюць там грамадзяне іншых дзяржаў. Яны проста надта бедныя, каб піць каньяк у адной зале з постсавецкай элітай.

**Яўген Мірановіч**

# Гадавіна трагедыі

29 студзеня 1946 года атрадам Pogotowia Akcji Specjalnej Narodowego Związku Wojskowego, якім камандаваў Рамуальд Райс, псеўданім „Буры", была датла спалена вёска Залешаны каля Кляшчэляў. У агні і ад куль бандытаў загінула 14 яе жыхароў, у тым ліку шасцёра дзяцей.

Вёска адбудавалася ў двух месцах. Некаторыя жыхары не схацелі вяртацца на папялішчы і пабудаваліся з другога боку шашы Бельск — Кляшчэлі. За амаль паўстагоддзя шмат якія хаты ўжо апусцелі. Хто памёр, хто пераехаў у горад, але жахлівы студзеньскі дзень застаецца ў памяці. Штогод 29 студзеня ходзіць з малітваю па хатах святар з Кляшчэляў. Затым усе збіраюцца каля крыжа, дзе моляцца за здароўе і памыснасць жывых і за спакой душаў памерлых.

Крыж паставілі залешанскія жанчыны з Кола вясковых гаспадынь. Стаяў ён раней каля хаты, у якую тае страшнае раніцы былі сагнаны вяскоўцы. Цяпер па доме засталіся толькі падмуркі. Гаспадар, якога няма ўжо ў жывых, доўга не згаджаўся, каб ставілі гэты крыж каля яго хаты. Баяўся. З гэтай прычыны помнік, які паставілі ўлады — з другога боку вуліцы. Гэты помнік узведзены быў у 1965 годзе, але дасюль ніхто не выправіў на ім памылковай даты трагедыі — „19 студзеня". Пэўна так ужо і застанецца, пакуль гэты помнік не развваліцца. Даўжэй будуць стаяць іншыя помнікі — забойцам нявінных жыхароў Залешан.

Сёлета 29 студзеня выпала ў нядзелю. Пасля багаслужбы ў Кляшчэлях у Залешанах маліўся — разам з жыхарамі вёскі — настаяцель тамашняга прыхода а. Мікалай Келбашэўскі.

**М.В.**

# ДЗЕЛЯ ПАМЯЦІ

21 студзеня г.г. прэм'ер-міністр Беларусі Міхаіл Чыгір і прэм'ер-міністр Польшчы Вальдэмар Паўляк падпісалі ў Беларусі пагадненне аб навукова-гаспадарчым супрацоўніцтве і ахове месц памяці па абодвух баках польска-беларускай мяжы. Быў адкрыты таксама новы гранічны пераход у Славатычах.

Пакуль, аднак, цяжка прадбачыць, якое значэнне будзе мець падпісаны дагавор аб навуковым і гаспадарчым супрацоўніцтве. Можна разважаць толькі пра другі дакумент, парафіраваны Паўлякам і Чыгірам пасля двух гадоў прац над ім польска-беларускай камісіі. З маральнага пункту гледжання справа простая і такімі праблемамі не павінны займацца кіраўнікі дзяржаўнай адміністрацыі. Павінна быць дадзена магчымасць ушанаваць памяць кожнага памерлага чалавека. У гэтым кутку Еўропы пакуль што ўсё гэтае надта складанае. Узнікла нават нейкая хрысціянская абраднасць, але само хрысціянства ў яго маральным і этычным значэнні зусім тут чужое. Помнікі ставіліся і ставяцца паводле актуальна абавязваючых палітычных прынцыпаў.

Падпісанае ў Брэсце пагадненне дае палякам магчымасць ушанаваць памяць сваіх памерлых суродзічаў на беларускай зямлі. Беластоцкім беларусам дае таксама шанц ушанаваць памяць сваіх братоў, загінуўшых у пасляваенны перыяд, якім часта з такіх ці іншых прычын не дадзена была магчымасць паставіць надмагільны крыж. Дакладна праз год міне пяцідзесятая гадавіна пацыфікацыі Залешанаў, Заняў, Шпакаў, Вулькі-Выганоўскай, Канцавізны, забойства беларускіх фурманоў з Краснага Сяла, Махнатага, Чыжоў, Ракавіч, Ягаднікаў, Арэшкава, Збуча, Крывой, Падрэчанаў расстраляных каля вёскі Старыя Пухалы. Дрэнна сведчыла б пра нас, калі б мы не ўшанавалі нявінна памардаваных за тое толькі, што яны былі беларусамі. Існуючыя юрыдычныя ўмовы павінны спрыяць адпаведным ініцыятывам з боку нашай грамадскасці.

**Я. М.**

# НАШЫ КАРАНІ

## LXXI. Чорныя дзесяцігоддзі.

Першы ўдар каралеўскі ўрад Рэчы Паспалітай накіраваў супраць экзарха Нікіфара. Яго арыштавалі, сфабрыкавалі фальшывае абвінавачанне ў шпіёнстве на карысць Турцыі, укінулі ў склеп крэпасці ў Мальбарку і там насмерць замарылі голадам. Таксама пад кіраўніцтвам каронната канцлера Яна Замойскага былі змайстраваны кампраметуючыя матэрыялы на князя Канстанціна (Васіля) Астрожскага, і князь вымушаны быў на некалькі гадоў спыніць сваю палітычную дзейнасць.

Уніяцкая іерархія разам з каталіцкім клірам, асабліва пры ўсебаковай дапамозе езуітаў, як злыдні, накінуліся на праваслаўнае духавенства, манаства, храмы. Зачыншчык уніі, Тэрлецкі, напрыклад, на чале свайго прыватнага вайсковага атрада напаў на Жыдзічынскі манастыр, дачыста яго абрабаваў, загадаў па-зверску катаваць манахаў і выганяць іх прэч з манастыра. З асаблівай зацятасцю праследаваў праваслаўных ягоны сябар Пацей. Ён наладжваў сапраўдныя паляванні на праваслаўнае духавенства, выганяў з парафій, здзекваўся, загадваў сваім паплечнікам біць і брыць бароды, укідаў у турмы, непадатлівых і стойкіх у сваёй веры праваслаўнай перадаваў уладам як бунтаўнікоў, і тыя крывава распраўляліся з імі. На чале банды сваіх узброеных слугаў урываўся ў праваслаўныя храмы, забіраў усё, без чаго немагчыма служыць набажэнствы.

Асабліва каварным чынам уніяты захапілі Супрасльскую лаўру. Аднойчы нечакана Пацей прыбыў у Супрасль, загадаў сагнаць усіх жыхароў лаўры ў Свята-Благавешчанскую царкву і аб'явіў аб далучэнні абіцелі да уніі. У адказ на такое нахабства архімандрыт Іларыён сказаў, што ён разам з манаскай брацiяй не прызнае ўлады папы рымскага, і яны не маюць намеру яму падпарадкоўвацца, адначасна адступніка Пацея яны лічаць ерэтыкам. Усе насельнікі Супрасльскай лаўры заявілі, што яны застануцца ў праваслаўі, нават калі б ім за тое пагражала смерць. Абураны Пацей зараз жа пакінуў Супрасль і падаў на архімандрыта Іларыёна ў суд за непадпарадкаванне ягонай вярхоўнай уладзе. Архімандрыт на суд не з'явіўся. Тады Пацей склаў на яго данос каралю, як на бунтара, які не прызнае каралеўскай улады. Кароль зараз жа загадаў выдаліць Іларыёна з Рэчы Паспалітай, а супраціўных уніі манахаў — выгнаць з манастыра.

Такім жа чынам паступалі іншыя уніяцкія іерархі і іхнія паплечнікі. Яны пры адабрэнні і заахвочванні караля займалі праваслаўныя манастыры; ігуменаў і брацію, што супраціўляліся уніі, выганялі прэч. З асаблівай раз'юшанасцю нападалі на праваслаўныя брацтвы, займалі іхнія храмы, разганялі школы, разбуралі друкарні, выкідвалі на вуліцу хворых і калекаў са шпіталяў і прытулкаў. З кожным днём узмацняліся праследаванні свецкіх праваслаўных людзей: іх выкідалі з дзяржаўных пасадаў, пазбаўлялі правоў на гандаль і рамяство, зневажалі, білі на вуліцах і дарогах.

Уніяты захапілі славуты праваслаўны Свята-Троіцкі манастыр у Вільні, выгналі манахаў і заснавалі ў ім сваю семінарыю, якую потым павысілі ў ранг калегіі. Такім жа чынам яны паступалі ва ўсіх асяродках духовага праваслаўнага жыцця на Беларусі і Украіне.

У Рэчы Паспалітай кожны праваслаўны адчуваў сябе ў небяспецы. У праваслаўі, веры сваіх продкаў, трывалі толькі самыя стойкія, непадатлівыя, адчайныя. А ўсе пакорлівыя, паслухмяныя на націскі, намовы, хісткія, баязлівыя, у першую чаргу тыя, каму пагражала страта пасады ці маёмасці, асабліва ўкраінскія і беларускія магнаты, заможная шляхта і мяшчане, масава выракаліся веры сваіх продкаў і пераходзілі на каталіцызм. Сялян і іншы просты люд іхнія ўладальнікі ці начальнікі без пытання і якога-колечы тлумачэння заганялі ва унію. А там, дзе насельніцтва спрабавала супраціўляцца, выганялі прэч праваслаўнае духавенства, царкву ператваралі ва уніяцкі касцёл, народ сілаю заганялі ў яго.

Праваслаўнаму духавенству пад пагрозай смерці забаранялася прабываць там, дзе знаходзіліся цэрквы, яго пазбавілі права свяшчэннадзейнічаць, далучаць людзей да святых Таінстваў споведзі, прычасця, хрышчэння, вянцу, адпявання нябожчыкаў. Праваслаўных памерлых забаранялі праводзіць вуліцамі гарадоў ці вёсак, было загадана вывозіць іх ноччу цераз брамы, якімі вывозіліся нечыстоты, або сцежкамі па-за мястэчкамі ці вёскамі. Праваслаўныя спрабавалі далёка па-за гарадамі ці вёскамі, у полі ці лесе, збіваць тымчасовыя каплічкі, каб у іх супольна маліцца. Але і туды налятталі банды фанатычных уніятаў і католікаў, людзей разганялі пабоямі, а капліцы разбуралі.

Не толькі праваслаўныя, але кожны светлы насельнік тагачаснае Рэчы Паспалітай быў свядомы, што унія пагражае дзяржаве. Ужо на пачатку гэтых уніяцкіх оргій, у студзені 1597 г., сеймікі шляхты ў Познанскім і Калішскім ваяводствах, дзе не было ніводнага праваслаўнага пасла, рашылі, каб *паны грэцкага веравызнання заставаліся пры сваіх старадаўніх правах і вольнасцях і ў веры згодна са сваім сумленнем.* А сеймікі на украінскіх і беларускіх землях катэгарычна дамагаліся знішчэння уніяцкіх біскупаў і ўзвядзення на кафедры праваслаўных епіскапаў.

У 1598 г. завязалася супрацоўніцтва праваслаўных з пратэстантамі дзеля супольнага змагання за рэлігійную талерантнасць у Рэчы Паспалітай. Звездаў пра тое новапастаўлены уніяцкі мітрапаліт Пацей і адразу пачаў біць на трывогу, што унія апынулася ў небяспецы. Звярнуўся ён да караля і католікаў з благаннем пра паратунак. Вядома, на ўсебаковую дапамогу з іх боку не мусіў доўга чакаць. Кароль Зыгмунт III Ваза перадаў усю ўладу над праваслаўнай Царквою яе смяротнаму ворагу Пацею, пацвердзіў правы уніятаў на ўсё, што яны захапілі і нарабавалі ў праваслаўных, забараніў віленскаму праваслаўнаму брацтву будаваць новы храм і такім чынам даў сігнал усім ворагам праваслаўя да беспараднай барацьбы супраць гэтай канфесіі. Гэтае праследаванне праваслаўных у Рэчы Паспалітай працягвалася доўгія 22 гады, цэлае пакаленне. Той час можна параўнаць толькі з расправай над хрысціянамі пры імператары Нероне. Асабліва раз'юшана яно адбывалася ў часы вялікай смуты у Маскоўскім княстве і высілках зняволіць яго Рэчы Паспалітай. Маршыруючы на Маскву, каталіцкія і уніяцкія жаўнеры па дарозе змяталі ўсё праваслаўнае. Прыгнёт праваслаўных крыху суцішыўся, калі праваліся каталіцка-уніяцкая авантура з Самазванцамі і праваслаўныя Маскоўскай Русі разграмілі захопнікаў і выгналі іх са свае зямлі. Але цішыня трывала нядоўга.

**Мікола Гайдук**

# З дзённікаў С. Яновіча

**1991-03-01.**

Натоўпісты вернісаж Лёніка ў т.зв. ратушы. І ўсё БДА з'ехалася, нават з Гайнаўкі. Атрымалася імпрэза толькі з нязначнай перавагай польскамоўя.

У „Кур'еры Паранным": *W Polsce Białystok jest postrzegany wyłącznie dzięki Sokratowi Janowiczowi i mniejszości białoruskiej* (— „Białystok pustoszeje"). А ў „Кур'еры Падляскім" намёк на тое, што наш палітычны рух знаходзіцца пад пільным вокам новай палітычнай паліцыі, UOP (vide: „Konfidenci"). У тым жа нумары пераклікаецца з гэтым — „Rozmowa, po której poseł trzasnął drzwiami". Пачатак усяму гэтаму... „Белавежа '90".

Такія публікацыі наводзяць пярэпалах на „кацапства". Яно згорбіцца ў дзве напасці, адбяжыцца ад БДА. Было так дагэтуль, будзе і цяпер.

**1991-03-03.**

Сесія Галоўнай рады і Краёвай управы БДА, вельмі фінальная, боканчаткова фармуецца Рада беларускіх арганізацыяў, якая здыме з БДА шматякія цяжары і перастанем рыць носам ад знямогі ды, па-другое, высвятляецца, паступова, ілюзійнасць нашых спадзяванняў на дэмакратызм новай польскай дзяржаўнай палітыкі адносна нацыянальных меншасцяў (наш электарат пойдзе за посткамуністам Цімашэвічам, выйгрыш якога здаецца пэўным наогул; дзесяць працэнтаў усяе Польшчы прагаласавала за ім у прэзідэнцкую кампанію, а беларусы — прыгнятаючай большасцю). Дэмакратычная унія — постсалідарнікі — прапануюць БДА саюз, але гэта, відаць, даволі слушна будзе адкрыта актывам... Ёсць ад ласкі „Салідарнасці" украінскі пасол Мокры, ну і што з таго! Узнікне пытанне, ці не лепей пакінуць нашы намаганні на ўдзел у выбарчай барацьбе... Трэба, аднак, пачакаць апавяшчэння ардынацыі (праз тыдзень —).

**1991-03-06.**

Учора звалачыўся я ў Варшаву і назад, усё роўна, што адбыўшы нейкае пакаранне. Некалі паабяцаў быў я журналісту Рэніку прыняць удзел ва універсітэцкай дыспутцы на матывах майго інтэрв'ю ў часопісе езуітаў „Przegląd Powszechny" (— прыехаў і войт Бельскай гміны, Ігнацюк, наш неаўкраінец, і нейкі той пазнанец з Пасынак, Ліпскі (?) ...). Тэма, быццам з гэтых беластоцкіх „кур'ераў". Пашумеў я там з паўтары гадзіны і, пакінуўшы аўдыторыю, пайшоў на беластоцкі цягнік (на шчасце, трапіўся мне Юрка Каліна, з якім прагаварыў усю дарогу).

Вярнуўся з Амерыкі Алег Латышонак (...).

**1991-03-10.**

(...) І яшчэ адна палёгка: ужо за мною тая ўсходнееўрапейская сустрэча, арг. Фундацыяй Кунцэвіча ў Казімежы над Віслай (8—9.III.). Ух!

Не паехаў бы я ў той — прыгожы, зрэшты — Казімеж, калі б не пастаяў на гэтым... Стахвюк, падставіўшы аўтамашыну (свет дарогі). Зачытаў я ім тамака сваю ацэнку ўсходняй палітыкі сучаснай Польшчы, той жа тэкст, які напісаў на заказ арганізатараў зноў жа ўсходнееўрапейскага семінара, што адбудзецца ў палове месяца ў Варшаве, і на які не думаю ехаць (Сыскі ўзяў яго да друку ў мес. „Literatura", а Ёнас — у „The Warsaw Voice", важнейшы ўрыўкі). Мой удзел у дыскусіі адбываўся ў настроі скандалу; Ст. Браткоўскі назваў мяне ворагам Польшчы, чым здзівіў нямала прысутных, якія — у кулуарах гэтага прэс-асяродка ў яры Малахоўскага — віншавалі мяне з выступленнямі. Стрэс быў, як халера! Але і знакаміты прэтэкст, каб больш не швэндацца на падобныя зборышчы, за якімі, відаць, стаіць нейкі ўсходні дэпартамент у Варшаве. Прыбронтаўся Скарадзінскі, як заўсёды п'яны; у фрустраванасці пахваліўся сваім экспертызам у Валэнсы (дастаў сто тыс. зл. за машынапісную старонку). Мелі месца іншыя знаёмствы, такія лішнія, і мне і нашай справе; Стахвюк ухапіўся за пару бізнесменаў, здаецца, талковых. А Барскі, надэкларававўшыся ў сваёй лаяльнасці Варшаве, хутка з'ехаў (спадабаўся Браткоўскаму і яго супольнікам).

*(Працяг будзе)*

Тлумачэнні:

*— UOP — Urząd Ochrony Państwa, тайная паліцыя, утвораная на месцы колішняй Służby Bezpieczeństwa;*

*— Фундацыя Кунцэвіча, польскага эмігранта, пражываючага ў Канадзе; ён і блізкае яму асяроддзе зацікаўлены рацыяналізацыяй польскай палітыкі ў яе дачыненнях з Украінай і Літвою перш за ўсё, а таксама і з Беларуссю;*

*— Стэфан Браткоўскі, вядомы публіцыст і палітык з лагера былое „Салідарнасці";*

*— „The Warsaw Voice" (Голас Варшавы), англамоўны часопіс для замежжа і замежнікаў у Польшчы;*

*— Багдан Скарадзінскі, вядомы публіцыст, які асабліва цікавіцца суадносінамі палякаў з беларусамі, украінцамі, літоўцамі; аўтар нашумеўшай кніжкі „Białorusini, Litwini, Ukraińcy: nasi wrogowie czy bracia?", якая з'явілася яшчэ ў падполлі, і мела потым перавыданні.*

# Урэшце беларуская мова ў Беластоку

У Беластоку будзе беларуская мова ў школах.

Ужо з сёлетняга новага семестра пачнуцца заняткі па беларускай мове ў IV Агульнаадукацыйным (спартыўным) ліцэі. Пакуль што будзе гэта прадмет для добраахвотнікаў. З новага навучальнага года беларуская мова набудзе статус прадмета замежнай мовы. Вучням будзе створана магчымасць здаваць экзамены на атэстат сталасці (матуру) з гэтага прадмета замест, напрыклад, англійскай ці нямецкай моў.

Ідэя арганізаваць гэтыя заняткі выйшла ад самое моладзі. Трэба адзначыць, што аўтары гэтай задумы належаць да Звязу беларускай моладзі. Пакуль што запісалася толькі 12 вучняў. Сярод добраахвотнікаў ёсць не толькі беларусы. Адна полька родам з Граева будзе вывучаць гэты прадмет „z czystej ciekawości".

Былі таксама і такія выпадкі, калі дзве дзўчыны спачатку запісаліся, а пазней прыйшлося ім выпісацца. Аказваецца, што не дазволілі ім бацькі-беларусы.

— Ёсць у ліцэях нямала вучняў, якія нават да сваёй рэлігіі не прызнаюцца, — гавораць мне ліцэісты. — Дарэчы, урокі рэлігіі вельмі спрыяюць развіццю ўласных вартасцей. Многія між сабой размаўляюць на беларускай мове, нягледзячы на беластоцкія тэндэнцыі. Самая моладзь і настаўнікі ставяцца да гэтага нармальна.

Ідэяй увядзення беларускай мовы ў беластоцкіх школах зацікаўлены таксама круатарыйныя ўлады. Плануецца, напрыклад, арганізаваць заняткі па гэтаму прадмету ў V Агульнаадукацыйным ліцэі. Аднак не хапае там саміх беларусаў, якія ажыццявілі б гэтую ідэю. У сённяшні час арганізаванню навучання беларускай мовы спрыяюць таксама асветныя законы. І як слушна нехта заўважыў: „Праблема не ў законах, а ў нас саміх".

**Г. К.**

# Дарагія чытачы!

Напэўна ў час зімовых канікул будуць у вас цікавыя і незвычайныя занятці. Ці будзеце гуляць у горадзе? Можа наведаеце вёску? А можа ўсё застанецца па-старому? Будзе цудоўна, калі напішаце пра свае канікулы ў „Зорку”. Самыя цікавыя тэксты надрукуем, а аўтары допісаў атрымаюць узнагароды.

Зорка



*На перапынку ў бельскай "тройцы".* Фота Г. Кандрацюк

## Вераб'і рыхтуюцца да свята

У дзіравае каструлі
Што была ў маёй бабулі,
На храмым старым сабаку,
У Валожын з Пугачоў
Едзе дзесяць вераб'ёў.

Ім Максімка ўслед крычыць,
Просіць „Снікерсаў” купіць.
Вераб'і ж яго не чуюць,
Бо ўсе Шарыкам кіруюць.

**Віктар Шніп**

## Пра канькі
*(спецыяльна з нагоды зімовых канікул)*

Цяжка сказаць хто і калі першы коўзаўся на каньках. Першыя звесткі пра іх захаваліся ў англійскіх хроніках ад 1174 года. Гэта былі канькі са звярыных касцей. Пераважна рабілі іх з аленевых рагоў, ды шмаравалі іх дзеля гібкасці тлушчам. Прывязвалі канькі да ботаў скуранымі паскамі.

У XIII ст. у Галандыі з'явіліся драўляныя боты, да якіх былі прыкручаны палазы з металу. Так менавіта выглядалі „продкі” сучасных канькоў. Але ў многіх халодных краінах людзі яшчэ доўгія стагоддзі карысталіся касцянымі канькамі.

З-ка

З гісторыі Беларусі

# Легенда пра Высокае

У мінулым нашыя продкі не толькі змагаліся з ворагамі, але і з непакорнымі з'явамі прыроды, стыхіямі. Вельмі важнай справай было назначыць бяспечнае месца для пасялення. Звычайна глядзелі, каб побач цякла рака, каб месца было адпаведнае ў абаронным сэнсе. Таму найчасцей гарады і паселішчы ўзводзілі на высокіх, недаступных месцах.

Таксама пра Высокае існуе цікавае паданне.

У аднаго князя было тры сыны. Мужныя былі гэта ваякі, праславіліся не раз у бітвах з ворагамі. Прыйшоў час, што старэйшы сын папрасіў бацьку:

— Дазволь мне, отчэ, жаніцца, — і, вядома, ніхто не пярэчыў такому жаданню.

І калі ў новай сям'і з'яўляліся дзеці, князь аддаваў частку сваіх зямель сыну. Неўзабаве і сярэдні князь захацеў жаніцца. Пры бацьку астаўся ўжо толькі наймалодшы. Ціха і спакойна было ў іх княстве. Людзі працавалі, множылі багацтва, жаніліся. Аднак жыццё мае свае правы. Паклікаў аднойчы князь свайго наймалодшага сына і кажа:

— Ведаеш, сынок, гадаваў я вас, вучыў волю і незалежнасць бараніць. Дзеля вас супраць традыцыі пайшоў. Паводле яе княжацкі стол трэба было перадаць старэйшаму, а я на ўсіх падзяліў. Цяпер глядзіце, жывіце між сабой згодна. Улада і багацце заўсёды гнеў і зайздрасць узбуджаюць. Калі памру, то пахавай мяне на Высокім грудзе і капліцу святую пастаў.

— Добра, бацька, усё зраблю, — адказаў малодшы.

У хуткім часе князь памёр. Пахавалі яго на тым жа Высокім грудзе, а магілу капліцай абнеслі. Прайшлі гады... Людзі сталі там узводзіць свае будыніны. І паселішча звалі Высокі груд. Пазней крыху па-іншаму — **Высокае**.

**Паводле Аляксея Ненадаўца**



*Наталька Бабулевіч з Бельска.* **Фота Міколы Ваўранюка**

Беларускія народныя гульні

# Воўк і авечкі

Выбіраюць з гульцоў пастуха і ваўка. Усе астатнія — авечкі. Пастух становіцца сярод хаты з качаргой у руках, каля яго навокал садзяцца авечкі, а воўк хаваецца за дзвярыма. Пастух пяе:

*Пасу, пасу авечачкі*
*Недалёка ад рэчачкі.*
*Я пасу авечкі*
*Каля самай рэчкі.*
*Воўк за гарою,*
*Шэры за крутою.*
*Ваўка не баюся,*
*Кіем баранюся,*
*Качарэжкай адаб'юся,*
*Пайду й буду спаць.*

Пастух адыходзіць убок і робіць выгляд, што спіць. Воўк кідаецца да авечак, хапае адну і разам з ёю ўцякае за дзверы. Усхапіўшыся, пастух крычыць:

— Ага-ту! Воўк авечку панёс...

Пастух выходзіць на сярэдзіну хаты і пяе сваю песню. Потым зноў ідзе спаць. Воўк зноў хапае авечку, і так працягваецца, аж пакуль не забярэ апошнюю. Тады пастух ідзе шукаць авечак і, стукаючы качаргой то на адзін бок, то на другі, кажа: „Воўчы след, авечы след, воўчы след, авечы след...” Падыходзіць да ваўка і пытаецца:

— Ці не бачыў, панок, маіх авечак?

— Не, не бачыў.

Авечкі пачынаюць паціху шумацець.

— А што ж гэта ў цябе шумаціць?

— Пчолы гудуць.

Пастух вяртаецца назад ды ідзе зноў шукаць авечак. Авечкі стукаюць.

— А што ў цябе стукае?

— Мае парабкі дровы сякуць.

І так далей, аж нарэшце авечкі пачынаюць блекатаць. Пастух убягае ў тую каморку і крычыць: „Ашкіра дамоў!” Заганяе іх у хату, пасля гэтага кліча ваўка ў лазню. Воўк пытаецца:

— А якія дровы?

— Бярозавыя.

— Не хачу, надта чадзяць.

Пастух кліча другі раз, воўк зноў пытаецца:

— Якія дровы?

— Асінавыя.

Воўк адмаўляецца, бо надта дымяць. Ажно за трэцім ужо разам, калі пастух кажа: „Дровы хваёвыя” — воўк згаджаецца, але, падышоўшы, пытаецца яшчэ:

— А сабак няма?

— Адна ёсць сучка ліхая і тая пад печкай здыхае, а сабака кісялём удавіўся.

Воўк выходзіць на сярэдзіну хаты і прысядае на карачкі, быццам мыецца. Пастух як крыкне:

— Цюцькі, кусіце!

Авечкі кідаюцца на яго. Воўк уцякае, яны даганяюць. Пастух падыходзіць да ваўка і пытаецца:

— А што, воўча, надта яны цябе пакусалі?

— Ой, пакусалі.

— Хадзі ж цяпер будзем іх кусаць

Кідаюцца ўдваіх да авечак, тыя не даюцца.




# Крыжаванка з песняй




1) магутнае дрэва ў Белавежскай пушчы, 2) птушка-клекатун, 3) насякомае-крывасмок, 4) другі „А” або пяты „Б”, 5) ім гуляем у валейбол, баскетбол, 6) сяброўка пчалы. 7) стогн, 8) засцілаюць ім стол, 9) жанчына ў якой памёр муж, 10) збожжа, 11) ловіць мышэй.

Калі адгадаеце крыжаванку, у пазначаных клетках атрымаецца загаловак папулярнай песні. Тыя, што на працягу месяца дашлюць правільны адказ, атрымаюць кніжныя ўзнагароды.

З-ка

# ПРЫГОДЫ МЫШКІ ПІК-ПІК

### Запрашэнне ў кумы

У Шніпаў-Рублеўскіх 1 мая 1993 года нарадзіўся быў Максімка. Спадарства Людміла і Віктар рашылі на куму запрасіць цёцю Міру Лукшу з Беластока, рэдактара „Зоркі". Веранічка ведала яе даўно — пазнаёмілася тады, калі дзяўчынка яшчэ нават не ўмела сядзець, а толькі ляжала пад коўдрай і вымаўляла „гу-гу", а сям'я жыла ў бабы Галі, на менскай Кальварыі. Мышка прыехала разам з імі, на вуліцу Волаха, і закватаравалася пад шафкай у пакойчыку, які стаў Веранічченым, а дзе раней працавалі пісьменнікі — спачатку Васіль Зуёнак, а пасля Валянціна Коўтун. Вось куды трапіла Пік-Пік! У гэтым пакоі заўсёды начавалі госці. Некаторыя ў сне размаўлялі, іншыя храплі так, што падымалася на падлозе мышчынай норкі смецце! (Пік-Пік бачыла нават самога Сакрата Яновіча — у сне гаварыў пра нейкія Крынкі, а мышка дакранулася ўласналапна да ягонага вожыка на галаве — так яе зацікавіў). Міра Лукша прывозіла ў Менск мышчыны партрэты, якія малявалі вучні беларускіх школ на Беласточчыне, чытачы „Зоркі". Мышка не раз глядзела малюнкі, захаплялася сваёй красой на партрэтах, на некаторыя трошкі крыўдавала (на тыя зусім-зусім падобныя да яе...). Пазнаёміцца бліжэй з самым рэдактарам „Зоркі" Пік-Пік збіралася даўно, але трошкі саромелася, што не мае чаго даць у падарунку чытачам. Можа, напісаць нейкі верш для самых маленькіх?.. У Пік-Пік столькі ж талентаў, толькі трэба сесці і напісаць ці намаляваць...

Цёця Міра прыехала 1 мая, на першую Максімкаву гадавіну. Назаўтра мелі везці яго на ўрачыстасць на Нямігу, у царкву — хрысціць! У кухні рыхтаваўся пачастунак. Мышка ведала — пакуль дастане сваёй лапкай усяго гэтага смакоцця — хутчэй возьмуцца за ласункі цёця Люда, пульхная і вясёлая жонка шчупленькага дзядзькі-вайскоўца, будучага хроснага бацькі Максімкі, а і цёця Міра ўхопіць нямала, нягледзячы на сваю сціпласць. Вядома ж — госці, і для іх так завіхаюцца тата, мама і баба Галя, ды і Веранічка ім дапамагае. Такое свята рыхтуюць! Мама ўжо два дні і дзве начы не спіць — варыць, смажыць і вершы піша левай рукой...

— Ну, будуць хрысціць Максімку Максімкам, — думала Пік-Пік, лежачы ў татавай пантофлі. — А я ж, здаецца, няхрышчаная?! Хто ж у мяне — хросныя тата ды мама? Няма?! Ці былі? Не ведаю... Імя ж нейкае ў мяне ёсць, ды і нядрэннае. Ага, трэба скарыстаць момант, і папрасіць цёцю Міру: няхай адным махам хрысціць і мяне!

Цёця Міра адпачывала на Веранічччынай канапе, гартала дзіцячы часопіс „Кважды-Ква". Мышка ўскараскалася на плед, кашлянула. Госця нават не звярухнула вухам.

— Добры дзень! — Пік-Пік пастукала кіпцікам у старонку часопіса. — Што, хрысціць Максімку будзем?..

— А, гэта ты, Пік-Пік. Прыемна цябе ўбачыць! Будзем. Заўтра вялікае свята.

— Але. Ахрысціце ж і мяне!

— Ну, не ведаю... — задумалася цёця Міра. — Мышкі ж не хрысціянкі, тым больш — не праваслаўныя... Ды і жывёл не хрысцяць, як людзей, ім клічкі даюць...

— Мне крыўдна, — уздыхнула Пік-Пік. — Мама чытала Веранічцы пра Хрыста, я чула: ён прыйшоў з неба на зямлю, каб ратаваць увесь свет. І мяне ж таксама. І іншых мышак. І Пеціту!.. Я хачу, каб абавязкова мяне заўтра ахрысцілі! Усё!

Назаўтра раніцай усе рыхтаваліся да выезду ў царкву. На вуліцы, хаця май, было марозна. Максімку апранулі ў столькі кашулек, кафтанікаў, швэдрыкаў, паўзуноў, шапачак, што сядзеў нерухома і толькі лыпаў вочкамі. Пік-Пік з пачышчанымі кіпцікамі і вусамі залезла ў кішэню Мірынага пінжака.

— Кажуць, бацюшка Грыгорый хрысціць па ўсёй поўнай цырымоніі, з акунаннем... — пачаў тата.

— Што за „акунанне"? — схамянулася Пік-Пік.

— Тры разы будуць акунаць голенькага Максімку ў хрысцільніцу, поўную вады, — шапнула ў кішэню цёця Міра.

— У якую ваду?! — віснула мышка. — Нашто?! Поўнасцю?!. Голым? Чаму? У такі холад?! Я нікуды не еду! — і Пік-Пік кумільгом з'ехала па спадніцы на падлогу. — Едзьце без мяне, я папільную нашу хату. Столькі дабра на сталах, шкада будзе, калі ўкрадуць зладзеі...

На жаль, дома застаўся яшчэ і тата. Ён, з мухалапкай у далоні, ганяў мух з тартоў. Мышцы, пакуль сям'я не вярнулася з Максімкам, удалося ўхапіць толькі пару разынак і лізнуць крэму.

— Зусім Максімка не змяніўся, хоць яго ў царкве памылі, — здзівілася Пік-Пік. — Але ёсць у яго столькі бацькоў — і родныя, і хросныя. А я нават сваёй мамы не памятаю... Можа, мяне ў капусце знайшлі?!

**Цётка Міра**



*Заняткі па фізкультуры ў бельскай "тройцы".* **Фота Г. Кандрацюк**

# АНКЕТА

*Шаноўныя дзеткі, калі хочаце, каб „Зорка" была вашым найлепшым часопісам, мусіце памагаць ёй сваёй актыўнасцю. Калі ласка, запоўніце і дашліце гэтую анкету ў „Зорку". Прыемна будзе, калі ў анкеце возьмуць удзел настаўнікі і бацькі, якія сваім дзеткам чытаюць „Зорку".*
*Сярод удзельнікаў разыграем узнагароды.*

1. Як даўно чытаеш „Зорку"? *)
а) адзін год
б) больш года
в) заўсёды

2. Папытай і напішы, чаму твае сябры і сяброўкі не падпісваюцца на „Ніву".

------------------------------------------------------------------------

------------------------------------------------------------------------

3. Ці тэксты з „Зоркі" прыгодны табе? *)
а) у школе
б) сярод сяброў
в) у хаце

4. Што табе найбольш падабаецца ў „Зорцы"?

------------------------------------------------------------------------

------------------------------------------------------------------------

5. Што табе не падабаецца ў „Зорцы"?

------------------------------------------------------------------------

------------------------------------------------------------------------

6. Якія ў цябе заўвагі, пажаданні адносна „Зоркі"?

------------------------------------------------------------------------

------------------------------------------------------------------------

7. Што думаеш пра тое, што час ад часу на 7 старонцы друкуюцца тэксты для моладзі і старэйшых вучняў?

------------------------------------------------------------------------

------------------------------------------------------------------------

Імя і прозвішча: ----------------------------------------------------

Клас: ------------------------------ Год нараджэння: ----------------------------

Адрас: ------------------------------------------------------------------

*) Адказ падкрэсліць.



*Вучні з бельскай "тройкі".* **Фота Г. Кандрацюк**

# Вясёлы куточак

Алесь пытаецца маці:
— Мама, я вельмі хачу пахудзець, скажы што мне рабіць?
— Трэба рашуча круціць галавой.
— І гэтага хопіць?
— Пэўна, тады як частуюць цябе цукеркамі, шакаладамі, тортамі.

* * *

Янка спазніўся ў школу.
— Што здарылася? — пытаецца настаўніца.
— Няшчасце. Найперш наша мама забыла ключы ад кватэры ў гаражы, ключы гэтыя ў машыне, а машына стаіць у гаражы.

* * *

Віця прызнаецца Марку.
— Ведаеш, калі я здзейсніў адно адкрыццё, маё жыццё зусім адмянілася. Бацька ўжо не называе мяне „дурнем", „гультаём", „невукам".
— Што такое здарылася?
— Я нядаўна знайшоў школьнае пасведчанне майго бацькі з сёмага класа.

* * *

Дзядуля апавядае свайму сябру:
— Учора я ўпершыню пабачыў свайго наймалодшага ўнука. Ён тоўсты, лысы, бяззубы, раз-пораз хапае за бутэльку.
— Страшна! А колькі ж гадоў яму будзе?
— Толькі тры месяцы.

* * *

Настаўніца польскай мовы правярае дамашнюю працу Міколкі.
— Гэты почырк я бачыла ў тваёй бацькі.
— Бо я ў таты пазычаў аўтаручку, — тлумачыўся Міколка.

**З-ка**

# У Драгічыне калядна

*Працяг са стар.1*

ўсягодругі раз, але эфект быў несуразмерны. Шкада, што не адважыліся прыехаць паўлаўскія дзеткі, якія таксама рыхтаваліся да агляду.

Прыемна было, што людзі падыходзілі да „Нівы" і дзяліліся сваімі перажываннямі. А, Божа мой! Ледзь даехалі, расказваюць жанчыны з Агароднічкаў. Добра, што наша новая бурмістрыня такая зычлівая. Калі не выйшла з службовым самаходам, без слова згадзілася заплаціць за нанятую прыватную машыну — абы „Журавінкі" даехалі на агляд!

Ну, як? — пыталі з непакоем людзі з калектыву ў Паўлах. Вельмі хваляваліся яны, але зусім непатрэбна. Вельмі добра, адказвала я ім і гаварыла, вядома, праўду. Але і па іхных тварах відаць было, што задаволеныя сабою.

А ведаеце, колькі я „Ніў" з календаром заказала? — пытаецца Ніна Грыгарук з Курашава. Сорак штук. І ўсе да адной прадала.

Юрка Якімюк, дырэктар Чыжоўскага ГОКу, дае мне новы нумар „Чыжоўскай газеты".

І з маладым псаломшчыкам Янам Бураносам з Рыбалаў (спяваў з кіраваным ім маладзёжным хорам), з якім мы дагэтуль сустрэліся ўсяго адзін раз, ды і то выпадкова, гаворым, як са старым знаёмым. Бо і справы для нас аднолькава важныя. Вось Заблудаўскі гмінны асяродак культуры прызнаў нарэшце Рыбалам нейкія сродкі. Будуць ізноў спяваць „Хлопцы-рыбалоўцы"!

Яшчэ прыемная размова з Антанінай Дацюк з вёскі Буякі, што ад Драгічына ў шасці кіламетрах. Чаму заспявала па-польску?! А ў нас тут, кажа, усе так, шляхта! Як заеду ў свае родныя Бацікі-Бліжэйшыя, дык там удосталь па-свойму нагаваруся. Антаніна Дацюк тут надта вядомая, у яе добры голас, нягледзячы на звыш 70-гадовы яе ўзрост. Вельмі хацела б яна заспяваць у конкурсе „Беларуская песня"!

Больш сямі гадзін працягваўся агляд калядных песні ў Драгічыне. Каардынаваў імпрэзу Ваяводскі асяродак анімацыі культуры ў Беластоку ў асобах Сцяпана Копы і Юзафа Зыські. Усім кіравала Уршуля Тамасік, дырэктар Гмінна-гарадскога асяродка культуры ў Драгічыне. Нягледзячы на мітусню, вельмі цешылася, што менавіта іх выбралі на месца такога свята.

А як цешыліся мясцовыя людзі, калі нашы калектывы, пасля выступлення, паехалі па вёсках калядаваць! Вядома, што значыць пачуць сваё роднае слова, зразумець, што ты тут не адзін, што жывучае ў народзе трымаецца моцна...

На міжваяводскі агляд у будучым годзе паедуць беларускія калядныя калектывы „Красуні" з Краснага Сяла і калектыў з Паўлаў. Пра гэты другі калектыў член журы, дырэктар Ваяводскага асяродка анімацыі культуры Казімір Дэркоўскі сказаў: „Гэта наша адкрыццё. Разовец!" А я цешуся, што мы яго ў „Ніве" адкрылі хоць на пару тыдняў раней.

**Ада Чачуга**
**Фота аўтара**



*Усяго другое выступленне паўлаўскага калектыву— і адразу ў лаўрэаты!*



*"Журавінкам" з Агароднічкаў не было з кім пакінуць у хаце "дзіцяці".*

# Каб я быў Сорасам

*Працяг са стар. 1*

*— Давайце пагаворым пра весялейшыя справы. Каго мы ў гэтым годзе пабачым на фестывалі?*

— Бачыце, гаворым якраз у такі час, калі яшчэ самі не ведаем. Мы вызначылі тэрмін, да якога чакаем заявак — да лютага. Але, вядома, калі якая заяўка пару дзён спозніцца, яе таксама будзем разглядаць. Хацелася б толькі, каб сапраўды быў ён, як і мінулагодні, поўнасцю міжнародны, ва ўсіх катэгорыях.

*— А ці паміж удзельнікамі знойдзецца месца для простых вясковых хораў? У пачатку фестывалю заўсёды быў адведзены адзін дзень, на якім прэзентаваліся хоры з вясковых прыходаў.*

— Калі ў мінулым не было такога дня, дык гэта абазначае, што не было ахвотных вясковых хораў паказацца на нашым фестывалі, або не было ў мяне часу і магчымасці падшукаць іх і пераканаць да ўдзелу. Мы абсалютна ніколі не адмаўляліся ад удзелу ў фестывалі вясковых хораў. Заўсёды вітаем усіх выканаўцаў з сапраўднай радасцю. Калі б я мог толькі параіць нешта, дык скажу, што неабавязкова вясковым хорам парывацца на вялікі філарманічны рэпертуар. Іх багацце ў чым іншым. Якраз у захаванні арыгінальных напеваў. Так як у мінулым годзе выступіў калектыў з Яробіна са Славаччыны. Як заспявалі яны на два галасы, не было ніякіх сумненняў, што атрымаюць узнагароду. Вось да такой формы я заахвочваў бы нашых вясковых пеўчых.

*— Што новага прадбачваецца на сёлетнім фестывалі?*

— Калісьці арганізавалі мы падчас фестывалю семінар для дырыжораў. Думаем да гэтага вярнуцца. Гаварыў я з дырэктарам Цэнтральнага асяродка анімацыі культуры ў Варшаве і ён з ахвотай у нечым такім супрацоўнічаў бы. Абяцаў нават узнагароду для арганізатараў, для аніматараў культуры, якія працуюць каля фестывалю. Такі семінар, у якім прынялі б удзел каля 30 дырыжораў, прафесійныя музыкі, прафесары музычных школ, члены нашага журы, мог бы быць вельмі карыснай формай абмену думкі пра царкоўную музыку. Планаваная намі тэма такога семінара: „Праблемы выконвання царкоўнай музыкі".

Таксама ўдзельнікі фестывалю не абмяжуюцца толькі выступленнем у Саборы Св. Тройцы, але таксама будуць ездзіць з канцэртамі па ваколіцы. Можа так здарыцца, што вясковыя хоры пакажуцца ў Беластоцкай філармоніі, а прафесіянальныя хоры заспяваюць перад жыхарамі Чыжоў ці Чаромхі. І ў гэтым таксама заключаецца прывабнасць нашай імпрэзы. На такую форму пагаджаюцца ўсе выканаўцы. Я яшчэ не спаткаўся, каб якія прафесіяналы адмовіліся выступіць перад вясковай публікай, або сказалі, што для іх гэта не гонар.

У гэтым годзе ўпершыню да арганізацыі фестывалю падключылася міжнародная арганізацыя праваслаўнай моладзі *Сіндэсмос*. У іх багатыя кантакты па ўсім свеце, нават у экзатычных афрыканскіх краінах. Праз іх пасрэдніцтва інфармацыя пра наш фестываль разыдзецца яшчэ па шырэйшых кругах. Але і мы робім што можам. Я, для прыкладу, нядаўна быў у Італіі, прабаваў завязаць кантакты. Паглядзім, можа з гэтага што ў будучыні выйдзе карыснага. І мушу тут пахваліцца, што неадменны старшыня нашага журы прафесар Рамуальд Твардоўскі атрымаў нядаўна прэстыжную ўзнагароду ад швейцарскага саюза дырыжораў. Гэта таксама, пасрэдна, і наш гонар, бо прафесар Твардоўскі зросся ўжо з нашым фестывалем. З'яўляецца яго неадлучнай і вельмі істотнай часткай. Ён расслаўляе наш фестываль, як у краіне, так і за мяжой.

*— Дзякую за размову. Жадаю поспеху і як найлепшых духоўных уражанняў Вам, усім удзельнікам ды гледачам.*

**Гутарыў Мікола Ваўранюк**

-------------

*) Ужо калі гэтае інтэрв'ю было здадзена ў друк, атрымаў я інфармацыю, што Гайнаўская гарадская рада змяніла сваё першапачатковае рашэнне і на XIV Міжнародны фестываль царкоўнай музыкі прызначыла 180 мільёнаў злотых (старых).

# Тамара Тарасевіч у Варшаве

24 студзеня г.г. роўна ў 18.00 выставачная зала ў Доме рускай культуры запоўнілася любіцелямі мастацтва. Кіраўнік аддзела культуры Аляксандр Хахлоў ва ўступным слове прывітаў прадстаўніка Пасольства Рэспублікі Беларусь д-ра Мячэслава Часноўскага, усіх гасцей і крыху спазніўшагася праф. Анджэя Стэльмахоўскага. Прамоўца падкрэсліў, што выстаўка сарганізавана стараннем Дома рускай культуры і Варшаўскага аддзела Беларускага грамадска-культурнага таварыства з асаблівым заангажаваннем Галены Анішэўскай.

Тамара Тарасевіч, вітаючы прысутных, падзякавала за зацікаўленне яе мастацтвам. Асабліва сардэчна прывітала мастачку Марыю Анто, якая адкрыла яе талент і стала пратэктарам мастацкай дзейнасці Тамары.

Т. Тарасевіч — жыхарка Белавежы — гэта ўвасабленне скромнай ветлівасці і задуменнасці. Ад 1988 г. здолела яна напісаць 200 карцін, частку якіх можна пабачыць у яе прыватнай галерэі ў Белавежы на вул. Парковай. Семнаццаць персанальных выставак у Польшчы і ў Беларусі (Гродна, Віцебск, Мінск), удзел у двух калектыўных выстаўках, першая ўзнагарода ў аглядзе непрафесіянальнага мастацтва гайнаўскага рэгіёна, шматлікія карціны ў музеях і прыватных калекцыях у Польшчы, Беларусі, Францыі, Галандыі, Канадзе, ЗША, Нямеччыне і ў Вялікабрытаніі ўчынілі яе вядомай у свеце мастацкага жывапісу.

„Імпрэсіі Белавежскай пушчы" — такі загаловак выстаўкі поўнасцю адпавядае тэме і духу творчасці мастачкі. Як сама заявіла, інспірацыяй яе мастацкай працы з'яўляецца пушча, з якою яна зжытая ад дзяцінства. Сужыццё з прыродаю, умеласць назіраць за працэсамі натуры выклікаюць суб'ектыўныя незалежныя адчуцці мастачкі, уплываючь на ўражанні, якія праяўляюцца ў кампазіцыях і розных формах вобразаў дзе-якіх прыбліжаных да казачнага свету, бачанага ўяўленнем аўтаркі, але і не аддаленага ад рэалізму.

У адрозненне ад рэалістычнага жывапісу, які дакладна адлюстроўвае фрагменты натуры, Тамара не прыдае асаблівага значэння падрабязнасцям, хіба што нейкі элемент яе твора з'яўляецца асноўнай мэтай зацікаўлення. Напрыклад, у карціне „Венерын чаравічак" наўмысна з перабольшаннем выэкспанавана гэтая кветка на фоне лесу, каб звярнуць увагу на яе і прадухіліць пагрозу гібелі.

Назіраюцца неардынарныя асаблівасці і ў кветачных ці раслінных кампазіцыях, твораных таксама уяўленнем. У асноўным, аднак, спецыяльныя эфекты мастачка стварае цераз адпаведную каларыстыку і разнароднасць формаў. У палатне „Крык дрэў" насычанасць вострымі чорнымі і чырвонымі колерамі ды багацце формаў і ўкладу фігур пацвярджаюць ідэю пратэсту супроць дэструкцыі натуры. У іншай карціне, на якой віднеецца фрагмент старога лесу, уяўленая аўтаркай форма дрэў ды насычанасць жоўта-зялёнымі колерамі ўнушае старасць раўназначную з прыбліжэннем сконy. Увага прысутных засяроджвалася між іншым на сельска-падляшскім краявідзе са стагамі ці на даліне з бусламі.

Ідэі творчасці Тамары Тарасевіч — пашана прыроды, турбота за яе, абарона перад знішчальнымі ўздзеяннямі цывілізацыі — прамаўляюць да пачуццяў і розуму людзей, ды прабілі ўжо сцяжынкі ў шырокі свет і заслугоўваюць на распаўсюджанне.

**Янка Жамойцін**

# Ужо ёсць

Апошнім часам шмат асоб заходзіла ў рэдакцыю „Нівы", пытаючыся пра кніжкі Надзеі Артымовіч. Усіх зацікаўленых інфармуем, што маем ужо зборнікі вершаў Надзеі Артымовіч „Дзверы" і „Сезон у белых пейзажах".

# Стрэчанне Гасподне нашага Ісуса Хрыста

**Кандак:** Ты ўлонне Дзявічае Сваім нараджэннем асвяціў і рукі Сымонавы дабраславіў, папярэдзіўшы, як належалася, і сёння збавіў нас, Хрысце Божа; спыні войны між людзьмі і ўмацуй праваслаўных хрысціянаў, тых, што Ты палюбіў, адзіны чалавекалюбны.

15 лютага (2.02 па старому стылю) адзначаем адно з вялікіх двунадзесятых свят — Стрэчанне Гасподне. Нягледзячы на назву — гэта багародзічнае свята. Згодна з яўрэйскім законам кожнага першароднага сына трэба было прынесці ў храм на саракавы дзень пасля нараджэння. Быў гэта свайго роду сімвал прысвячэння дзіцяці Богу, а заадно і ахвярапрынашэнне. Абычай гэты звязаны з выратаваннем першародных сыноў перад выхадам з егіпецкай няволі. Божая Маці разам з Іосіфам прынеслі Богамладзенца Хрыста ў Іерусалімскі храм і ахвяравалі двух галубоў.

„А калі скончыліся дні ачышчэння іх па закону Майсеяву, прынеслі Яго ў Іерусалім, каб прадставіць перад Госпадам, як сказана ў законе Гасподнім, каб усякае дзіця мужчынскага полу, разрываючае чэрава, было ахвяравана Госпаду (Вых. 13, 2) і каб прынесці ў ахвяру, як сказана ў законе Гасподнім, дзве гарліцы, ці двое галубянятак. І вось быў у Іерусаліме чалавек, на імя Сімяон. Быў гэта муж справядліві і пабожны, чакаў пацяшэння Ізраілявага; і дух Святы быў на ім. Яму было прадказана Духам Святым, што ён не ўгледзіць смерці, дакуль не ўгледзіць Хрыста Гасподняга. І прыйшоў ён па натхненню ў царкву. І, калі бацькі прынеслі Дзіцятка Ісуса, каб выканаць над Ім законны абрад, ён узяў Яго на рукі, багаславіў Бога і сказаў: Цяпер адпускаеш слугу Твайго, Валадару, па слову Твайму, з мірам; бо бачылі вочы мае, спасенне Тваё, якое Ты прыгатаваў перад абліччам усіх народаў, святло для асветы паганаў, і славу народу Твайго Ізраіля.

Язэп жа і Маці Яго дзівіліся сказанаму аб Ім. І багаславіў іх Сімяон і сказаў Марыі, Матцы Яго: вось, ляжыць Гэты на ўпадак і паўстанне многіх у Ізраілю і на знак, якому праціўіцца будуць, і табе самой меч пранікне ў душу, — каб выявіліся памышленні многіх сэрцаў.



Тут была таксама Ганна прарочыца, дачка Фануілава, з калена Асіравага; была яна ў вельмі старым веку, з мужам ад дзявоцтва свайго пражыла сем гадоў, удава гадоў васьмідзесяцёх чатырох, якая не адыходзіла ад царквы, постам ды малітваю служачы Богу дзень і ноч. І яна ў той час прыйшоўшы славіла Госпада і гаварыла аб Ім усім, што чакалі выбаўлення ў Іерусаліме. І калі выканалі яны ўсё па закону Гасподняму, дык вярнуліся ў Галілею, у места сваё Назарэт". (Лук., 2: 22-39).

Гэта свята выводзіцца з Іерусаліма, дзе было яно вядомае ўжо ў IV стагоддзі і адгэтуль распаўсюдзілася на іншыя лакальныя Цэрквы. Прыклад Прасвятой Дзевы Марыі, якая выканала ўсё, чаго патрабаваў закон, ставіцца нам як узор выконвання прынцыпаў і абрадаў Святой Царквы, а заадно напамінае, што мы ахвяраваны Богу, якому мы павінны прынесці свае душы і целы. Святыя Сімяон і Анна таксама з'яўляюцца нам прыкладам. Цераз Св. Сімяона Царква паказвае, што суцяшэнне і збавенне павінны мы знаходзіць у Хрысце, аддаючы яму сваё жыццё. А прыклад Святой Анны сведчыць аб тым, што мы як мага найчасцей павінны хадзіць у царкву і прыносіць Госпаду малітву і пост.

На аснове гэтага здарэння з жыцця Ісуса Хрыста быў устаноўлены абрад увацаркаўлення, які называюць таксама ўводам або ўводзінамі.

**С.Н.**

# ІКОНЫ

**Частка XXI**

У чэрвені 1991 года я наведаў мястэчка Гарадок. У гэтай мясціне могільнік знаходзіцца пры царкве. Якраз на гэтым могільніку сустрэў я прыблізна васьмідзесяцігадовую жанчыну, з якой уступіў у размову. Мая субяседніца, выслухаўшы мае ўводныя словы, ахвотна пачала размову, заявіўшы наступнае:

„Гаварыць то я з вамі пагавару ахвотна, але назвіска то я вам сваго не падам. Вы відно дзеннікаж і зараз возьмеце перакруціце тое, што я скажу і надрукуеце ў газэці. А после гэтаго, то будуць з мяне смяяцца і суседзі, і знакомы. А нашто мне гэто патрэбно?

А тое, што вы гаворыце пра іконы дзераўляны, каб іх значыцца не прадаваць і не міняць на новые, то вы гаворыце па крайняй меры на дзесяць лет запозна. Няма ўжо гэтых іконаў у нашых людзей. Даўно няма. Розныя жулікі, як плойма круціліса па Гарадку і па вёсках і выдурвалі ад людзей дзераўляны іконы. Да вайны і пасля вайны то такіх іконаў у людзей было вельмі многа.

От, вы толькі паглядзеце, якая тут цэрква стаіць. А вы ведаеце, хто яе збудаваў? А збудаваў яе калісьні бацюшка, а цяперашні мітрапаліт усяе Польшчы Васіль Дарашкевіч. Ой, што гэто за чалавек быў. Божа, мой Божа. Цяпер то ужэ няма такіх людзей. То ж ён дзень і ноч як вол працаваў. І камене валачыў, і цэмент мяшаў, і цэглы на плечах насіў. Знаеце, быў такі выпадак. Зімою разваліліса яму чаравікі, ну то ён пайшоў да шаўца. Той паглядзеў на гэты чаравікі і кажэ: „Знаеце, бацюшка, вы чаравікі свае моцно знішчылі. Я іх па крайняй меры паўдня буду ладаваць". А бацюшка гэтаму шаўцу кажэ: „Ну так и что, делай пол дня". А шавец яму адказвае: „А як жэ бацюшка вы пойдзеце на плебанію, то ж на дварэ снег і мароз. Можэ я вам дам якіесь свае чаравікі". А Дарашкевіч яму на гэто: „Ты не заботься такими пустяками, я дойду босяком".

Сказаў так, зняў чаравікі і пайшоў па снягу босы дахаты. От, бачыце, які гэто быў чалавек. То ці вы дзесь бачылі цяпер такіх духоўных? На машынах загранічных ганяюцца, канькакі п'юць, можа па дваццаць пар абутку маюць. А бачыце, Дарашкевіч па снягу, усё адно як Хрыстос па вадзе, хадзіў. Цяпер народзіцца дзіця, трэбо хрысціць — давай мільёны, дарасце, хоча жаніцца — давай мільёны, памрэ стары — давай мільёны. А после вайны ніякіх мільёнаў у людзей не было. Ну і на гэту нашу цэркву то людзі нават калі б і хацелі, то не мелі з чаго даваць. А калі і давалі, то вельмі мало. А то ж бацюшка Дарашкевіч усё ж цэркву збудаваў і то якую! Уся яна потам Дарашкевіча прапітана. Ён то усе адно, што святы апостал.

Ну, але вы мяне пра іконы пыталі. Хочаце ведаць, што іконы значылі для мяне ў маім жыцці. То я вам скажу, я ж праваслаўны чалавек. У праваслаўных людзей то заўшэ былі іконы па хатах. Мы ж з іконамі радзіліса, з іконамі выходзілі замуж чы жэніліса і з іконамі уміраем. Так было і так наразе ёсць, а як яно будзе ў пшышлосці, то ніхто не ведае. Мы, бачыце, слабы народ. От, гляньце на палякаў. Яны ж ад свае веры ніколі не адступяць, а мы, абы-што. Не толькі дзяўчата праваслаўные выходзяць за каталікаў, але і нашы хлопцы перахрышчваюцца, калі жэняцца з палячкамі! То ведомо, што такі пярэхрыст павыкідае праваслаўны іконы на сметнік і абвесіцца каталіцкімі.

А аб гэтых дзераўляных іконах то я вам яшчэ штось цікавае скажу. У нас тут калісь быў доктар. Па-нашаму гаварыў і многім людзям памог, добры быў доктар. Але і выпівала то ён быў добры. Трэба сказаць, што ўсе начальнікі ў нас то калісь дабраліса як гарбузы ў гародзе: доктар — п'яніца, войт — п'яніца, парційны сакратар — п'яніца і камендант — п'яніца. Скрынкамі водку валачылі. Аднаго разу гэты доктар прыйшоў да мяне, а я тады то яшчэ была добра газпадыня і мела пару кароў, і кажэ: „Цётка, маеце водку?" А я яму гавару: „Не маю". „А смятану маеце?" — спытаў. „Маю", — гавару яму. „То наліце мне шклянку смятаны і дайце другую шклянку пустую". Наліла я яму тую смятану і паставіла другую пустую шклянку. А ён выцягнуў з торбы паўлітра шпірту, наліў паўшклянкі, хлопнуў і запіў смятанаю. После ўсё гэто паўтарыў і забраўсо пайшоў. От, бачыце, які быў з яго выпівала! Чаму я вам аб ім гавару? Бо гэто ён павыдурваў ад людзей усе дзераўляны іконы не толькі ў Гарадку, але і ва ўсіх вёсках. Браў не толькі іконы, але і падсвечнікі, і самавары, і ладную пасуду і старые сценные часы. Усё забіраў. Падманваў людзей. Гаварыў, што ён збірае для мітрапаліта Васіля і для якогась там Беларускага музея і што калі хто дасць ікону, то ў гэтым музеі пры іконе будзе вечно яго назвіско вісець. Ну, некаторым то даваў па кілька злотых, некаторым прывозіў пластыковы іконы, а некаторых то споіваў і ад п'яных выдурваў тыя іконы. Мае сваякі ў Падазеранах жылі. Старыя былі. Ну то ён спаіў старого і забраў ікону. Назаўтра стары апамятаўсо і прыпёр у Гарадок да гэтаго доктара. А той, дудкі! Не тут было! Сказаў, што ён ікону пакінуў у незамкнёнай машыне і яму ікону ўкралі. Той падазеранец у міліцыю хадзіў, але ж доктар з камендантам выпіваў, так нічым гэто і скончыласо.

Можа вам было б цікаво з гэтым доктаром пагаварыць, але ужэ не пагаворыце, бо яго Бог пакараў за тые іконы. Гавораць, што пару лет таму знайшлі яго мертваго на снегу паміж блёкамі ў Беластоку.

Ну, чаго я вам тут не нагаварыла. Вядомо, па-бабску. Ужэ хутко мне іконку дадуць у рукі як памру. А калі Вы хочаце больш што пра іконы даведацца, то падыдзіце да нашаго бацюшкі. Ён у нас разумны чалавек. Ведомо, вучоны. Усё ведае".

**Алесь Барскі**

## Святыя Цудатворцы і Бяссрэбранікі Кір і Іаан і Мучаніца Афанасія

Святы Кір нарадзіўся і выхаваўся ў Егіпце ў вядомай на ўвесь свет Александрыі. Па прафесіі быў ён лекарам, які бясплатна лечыў хворых пры дапамозе тадышніх медыкаментаў і зёлак, а таксама аздараўляў сілай веры і малітвы. Апрача цялесных хвароб лечыў ён таксама і духовыя. Грэх — інакш хвароба душы — надта часта бывае прычынай хваробы цела, якую дапускае Бог як пакаранне за грахі. Павучаючы ў гэты спосаб хворых і прапаведуючы Евангелле, Св. Кір многіх язычнікаў прывёў к Богу і ўчыніў іх хрысціянамі. У гэты час, пры імператары Дыялектыяне, праводзіліся вялікія ганенні на хрысціян і Кір прымушаны быў уцякаць з Александрыі. Пагражала яму небяспека за яго дзейнасць. Ягоныя ўцёкі ў Аравію не былі выкліканы страхам, але жаданнем у далейшым служыць бліжнім і словамі Ісуса Хрыста, каб уцякаць у іншае места, калі будуць праследаваць (Мф., 10:23).

У Аравіі Св. Кір прымае манаскі пострыг і атрымоўвае ад Госпада дар здзяйсняць цуды. Пакідае ён тады традыцыйнае лячэнне і пачынае аздараўляць людзей сілай сваёй малітвы. Многія людзі, дзякуючы Кіру, сталі тады хрысціянамі.

У той час у Эдэсе — горадзе ў Кілікіі ў Малой Азіі — жыў Іаан, хрысціянін, які служыў у арміі. Калі пачаліся ганенні на хрысціян, пакінуў ён сваю службу, бліжніх, багацце і падаўся ў Іерусалім. Праз нейкі час даведаўся пра Кіра, слава якога разышлася шырока, і пажадаў пабачыць гэтага святога мужа. Падаецца ён у Аравію, знаходзіць яго і застаецца пры ім як сведка яго цудаў і пераймальнік святога жыцця. У той жа час у горадзе Ніжні Канап у Егіпце ў турму ўкінулі жанчыну, імя якой было Афанасія, разам з дочкамі — Феакцістай, Феадоціяй і Яўдоксіяй. Пабыўка ў турме і катаванні мелі давесці да адрачэння ад хрысціянскай веры.

Кір і Іаан, пачуўшы аб гэтым, хутка падаліся ў гэты горад, каб падтрымаць веру і сілы святых пакутніц. У турме падбадзёрваюць Афанасію і яе дочкі, прыдаюць смеласці перад непазбежнымі пакутамі ў імя Хрыста. Упраўляючаму горадам неўзабаве данеслі аб двух незнаёмых вандроўніках, якія навучалі аб Хрысце. Прапаведавалі яны не слухаць імператарскіх загадаў, не пакланяцца бажкам, але пакідаць язычніцтва і прымаць хрысціянства.

Неўзабаве Святых Кіра і Іаана злавілі і пасадзілі ў турму. Потым прывялі Афанасію з дочкамі і на іх вачах сталі катаваць святых мужоў. Ганіцелі хацелі такім чынам запалохаць жанчын і прымусіць, каб яны адракліся веры ў Хрыста. Кіра і Іаана катавалі ў пачварны спосаб, але багабаязная маці са сваімі дзецьмі не перапалохалася чакаючых іх катаванняў. Тады развязалі святых мужоў і сталі здзекавацца над Афанасіяй і яе дочкамі. Яны, аднак, з Божай дапамогай, мужна перанеслі пакуты і праследаванні, калі не дасягнулі задуманай мэты, адсеклі ім галовы мячамі. Неўзабаве таксама загінулі Кір і Іаан, якія не адракліся Хрыста. Здарылася гэта 31 студзеня (13.02 па новаму стылю) 311 года.

У гэты дзень, разам з ушанаваннем памяці Святых цудатворцаў і бяссрэбранікаў Кіра і Іаана, Царква ўшаноўвае таксама памяць Святых Мучаніц: Афанасіі і яе дачок — Феакцісты, Феадоціі і Яўдоксіі.

**С.Н.**

Новыя вершы

БАРЫС РУСКО

## Пастка

I

Маўчыць цішыня.
А палююць,
каб жыць,
каб мець,
каб даказаць,
каб зразумець,
каб убачыць,
каб забіць,
каб здабыць,
каб змяніць —
для сябе,
для іншых,
з мэтай,
без мэты,
на яве
і ў сне,
свядома,
падсвядома,
з аблавай
і без аблавы.

II

Шнурок жэмчугу абмотвае шыю,
а малюскі памерлі.
Б'юцца хвалі аб бераг пануры,
нясуць яны боль паміранння;
а ён гайдае шлюпку лаўцоў
жэмчугу,
а ногі скачуць на паркеце.
Жэмчуг — віноўнік забойства.

III

Вочы памутнелі,
мозг пажырае катаракту,
чалавек аваладвае нотамі паўзучай
вібрацыі,
імкнецца скласці сваю музыку
і сыграць на раялі ўсёабдымным.

IV

Кароткая кашулька на дзіцяці.
Дрыжыць ад холаду,
ад няласкі,
ад страху.
А маці бяду прадзе,
а бацька кульгавы.
Дзіця ў калысцы пра лёс пакутны
думае:
як тут змяніць яго,
як паказаць сябе
бацькам і свету.
А горб расце,
нараст бяссэнсіцы ў жыцці.

V

Над прорвай птушка звіла гняздо.
І слушна.
Бо хто без крылаў дастане яе.
Расце птушаня на адкосе гары
без страху,
і пер'е блішчыць, як адзенне
манекеншчыцы.

VI

Аблаву рыхтуе стары,
бо не дагоніць чарапаху,
і ляніві, якога лыжкай корміць
прыслуга.
Аблаву рыхтуе немач хцівая
і прага знявечанага ўсведамлення.
На зямлі ляжаць маладыя дубы.

VII

Палююць на сонца,
на жыццё,
на міраж,
на мазню —
са скрыгатам зубоў,
па неабходнасці,
з паходняй у руках,
з аргументамі вуліцы,
у масцы на твары.
І таюць шэрагі
ад укусаў,
ад удараў,
ад зроку,
ад слоў,
ад памяці,
ад пажаданняў
і ад адкрыццяў.
І няма на стале лячэбнай вады
з чашы розуму.

## Сум і радасць

Прыйшлі калядныя святы. Старая Верка цешыцца, што дажыла свята, але еўшы вячэру, засумавала.

Ці ж яна думала, што на старасць чакае яе самота? Калі была дзеўкай, у іх доме было дзесяць чалавек. Калі замуж пайшла — пятнаццаць. Пайшлі дзеці. Было іх шасцёра. Мужавы сёстры пачалі адна за адной выходзіць замуж. Людзей у хаце аднак не паменшала — сталі браць жонак браты, нараджаліся ў іх дзеці, і так таўкліся аж да апошняй вайны. А пасля стала ўсё іначай — двух дзевераў паехалі ў СССР, двух — у Прусію, адзін завёў гаспадарку ў суседняй вёсцы. Дзеці пасля пачатковай школы пайшлі ў сярэднія, сталі на працу ў гарадах. Завочна пакончылі вышэйшыя ўстановы, павыязджалі на захад Польшчы. Прыязджалі ўсе дамоў на большыя святы, летам у вёску прысылалі дзяцей адпачываць.

Калі ўнукі сталі дарослымі, пачалі жаніцца ды выходзіць замуж, памёр ад інфаркта стары Антось. Пару гадоў гаспадарыла Верка адна, аж знядужала. Аддала дзяржаве сваю зямлю за пенсію. Пастарэлыя ўжо дзеці ўсё наведвалі яе ў святы разам са сваімі дзецьмі, але на канікулы не было каму да яе прыязджаць.

Калі змяніўся дзяржаўны лад, усё радзей Верчыны патомкі наведвалі родную вёску. Дарага, казалі, білеты каштуюць, а на ўласнай машыне — яшчэ даражэй. Кожны толькі думае каб хоць неяк выжыць. Верцы таксама нялёгка адкласці са сваёй пенсіі, каб нешта і дзецям даць. Унучкі працуюць на прыватных фірмах, а там трэба налягаць на работу, каб яе не страціць, а ў водпуск пускаюць не тады, калі ты хочаш, але так, каб было выгадна ўласніку. Працуе чалавек па 10 гадзін у суткі. А праўнукаў да бабы не высылаюць, бо замалыя яшчэ, ды і дарога дарагая нейкая.

Вось час прыйшоў, га? У вёсцы — адны старэчы, ды амаль усе самотныя. Раз у год добра, калі да іх хтосьці загляне!.. Калісь, бывала, на першы дзень каляд збяруцца хлопцы і дзяўчаты і са звяздой і фанарамі ідуць калядаваць. Частку грошай на другі дзень давалі бацюшку, каб адправіў малебен за іх здароўе, а за рэшту рабілі забавы. Бядней было, ды весялей. Святкавалі тры дні, а на чацвёрты збіраліся дзяўчаты, вышывалі макаткі, прыходзілі хлопцы, ладзілі спевы, пачыналіся жарты.

Ад Каляд да Новага года нічога старога не латалі, бо казалі, калі гэтак рабіць — увесь год у старым хадзіць будзеш. А ад Каляд да „Трох Каралёў" вечарамі нічога не рабілі, бо гэта „святыя вечары".

На Шчодры вечар маладыя варажылі. Дзяўчаты абдымалі штыкеты, лічылі: пары ці лішка. Калі пара — тады дзеўка выйдзе замуж. Падбягалі пад вокны і пыталі, ці ісці, ці пасядзець. Калі быў адказ „ісці" — дзеўка пойдзе замуж, а „пасядзець" — пасядзіць яшчэ ў дзеўках. На Новы год вечарам ладзілі танцы.

На каляду перад „Тры Кролі" ставілася ўрачыстая вячэра, як перад Раждаством. Зноў святкавалі тры дні. Пасля „Трох Кроляў" хто ставіў кросны ды ткаў палатно, а хто яшчэ канчаў прасці.

Ай, маладзі было тады поўная вёска, а цяпер што? Хаты пустуюць. Усё наракаюць, што ў горадзе кепска, але ў вёску ніхто вяртацца не хоча: работы шмат, прыбытку мала.

— От! — амаль крыкнула Верка. — Не першыя ж святы адна святкую! Патомкі, хоць далёка, але жывуць! Напэўна, здаровыя — у лістах не скардзяцца на нейкія хваробы. Дзякуй Богу, што чарговых свят дачакала. Хто ведае.

Трохі адпачнку, а посьлей пайду на Усюночную. Пабачымся са знаёмымі з суседніх вёсак. Паўспамінаць ёсць што...

**Аўрора**

## Дзед Вандал у роднай вёсцы

Ішоў я сабе памалу з вёскі, дзе нядаўна набыў хатку, на чыгуначную станцыю ў С., цераз родную вёску. Як рэдка якая, яна бурліць жыццём — народ будуецца, нараджаюцца народу дзеці, разбудоўваецца школа, на вуліцах — новенькія аўтамашыны, жывыя пенсіянеры на веласіпедах, аўтобусы з горада прыязджаюць не парожнімі... Тэпаў я сабе памаленьку, падпіраючыся палачкай — выйшаў раней, не даўяраючы ўжо ўласным сілам, і каб сёе-тое паглядзець. Што гляну — новыя твары, адны нечым нагадваюць мне ранейшых жыхароў — унучкі пэўна іхнія ці праўнукі. Час-часом — твар добрага знаёмага, толькі нейкі такі... як тут сказаць... пастарэлы... Ат, сам чалавек не бачыць, што сам старэе, мізарнее, кожны дзень гледзячы ў люстэрка, голячы пасівелую шчэць, а тут на табе: вось Антон як у гадах пасунуўся, як гэта Гандзю з Горкі да зямлі прыгнула, нейкая малюсенькая зрабілася... А як шырока ставіць ногі Анатоль Канцавы!.. А калісьці мы з ім па старых вербах над Нарвай гойсалі...

— Золька, ты гэта, ці не ты?! — усклікнуў я, убачыўшы былое маё тайнае першае каханне, сівую цяпер як галубка бабульку. Праўда, сучасна неяк трымаецца: над сівай грыўкай стаўбуніцца расцягнутая вязаная шапачка з кутасікам (пэўна, унучкава), на нагах выпалавелыя штаны ад спартыўнага касцюма з выпханымі каленямі і зляпаныя чобаты, а на спіне — стары мужчынскі буры палітон, палатаны на локцях!.. Мая была любая кінула на мяне вокам з-за акуляраў і пачырванела, як падлетак.

— Ат, Вандал, тыбо, упраўлялася, то так проста ад кароў выбегла. Ведаеш, як то на вёсцы, кінеш адну работу, бярэшся за наступную... Не паспееш вачэй працерці. Я во, тыбанько, за кніжкаю іду да Нюры ў бібліятэку; тэлевізар папсаваўся, то вечарамі чытаю...

Праўда, думаю, Золька заўсёды на ўроках пад партай трымала тоўстыя кнігі пра каханне, таму і школаў не пакончыла, і замуж выскачыла за першага, хто на забаве ў святліцы прызнаўся ёй у каханні (пра маю паэтычна-платанічную любоў я ёй сказаў, калі ўжо было запозна...).

— Вандал, ты ўжо так рэдка ў нас паказваешся... Даўно не бачыла, тыбо, але яшчэ някепска, так сказаць, выглядаеш. Толькі што моцна высах ты ад вучоны кніжак, бачу. Чула, што ў Б. ты хату купіў ці купляць надумаўся. От, фанабэрыі вы, вучоныя, маеце. Маеш блёк у Беластоку, нашто табе на старыя гады цягнуцца ў гэту задрыпаную вёку?! Сядзеў бы сабе ў цяпле, кнігі чытаў, у кіно хадзіў... Каб мяне хто завёз у места, то хоць на старасць пажыла б, як чалавек, апранулася б па-мястоваму... — Золька ўздыхнула, выцягнула з кішэні памятую хустку, выцерла нос. — Во, тыбо, во я хвора, а дохтара дзісь не маем, уцёк. Войт даў яму кватэру, муравanку з агародам, а той даў дуба. Вучоны чалавек у вёсцы не выжыве, не дасць рады.

Каля нас, пырскаючы размоклым брудным снегам, прамчаўся на веласіпедзе хлапчук з ранцом на спіне. Затармазіў на педаль.

— Мой праўнучачак! — ганарліва паглядзела на малога Золька.

— Babciu, dokąd lecisz? Znów po książki? Wypożycz dla mnie coś o dinozaurach! Cześć!

— Jasne! Zrobione! Czouem! — бабуля казырнула да свае шапачкі. — Nu to powiedz, Wandau, co u ciebie suychać? To ty jeszcze taksófki się nie dorobiu?

**Вандал Арлянскі**

## Нязведанымі белавежскімі сцежкамі

Крыху беднаваты апошнім часам выбар літаратуры аб Белавежскай пушчы папаўняецца. Напрыканцы мінулага года паявіліся кніжачкі аб строгім запаведніку прыроды і прыродазнаўчым музеі, а вось, са студзеня г.г. можна ўжо купіць чарговае выданне п.з. „Zabytki kultury materialnej Białowieskiego Parku Narodowego", напісанае дырэктарам БНП Чэславам Аколавам.

Кніжачка, як сведчыць сам яе загаловак, прысвечана справам, якім у ранейшых даведніках адводзілася мала месца. Вядома, Нацыянальны парк у Белавежы гэта перш-наперш зубры і першабытная прырода. Пра помнікі старадаўнасці, а таксама пра сляды даўняй дзейнасці чалавека звычайны жыхар Польшчы, мабыць, і не здагадваецца.

Вандроўка па старонках кніжкі пачынаецца з Палацовага парку, у якім знаходзім шмат будынкаў яшчэ з часоў апошніх Раманавых. Сам парк сёлета святкуе сваё 100-годдзе. Найстарэйшы аб'ект у парку — гэта абеліск ад 1752 г., увекавечваючы паляванне караля Аўгуста III Саксонскага. Аўтар кніжачкі далей звяртае ўвагу на будынак ад 1845 г. (найстарэйшая будыніна ў Белавежы!), даўнюю царскую стайню і царскі палац, па якім асталіся толькі адны мураваныя вароты. Апісваюцца таксама дамы: Упраўлення, Маршалкоўскі, Паляўнічы, Шаферaў і Лазня. Нарэшце дабіраемся да вялікага валуна, на якім некалі віднеў высечаны 1747 год.

Наступная мэта экскурсіі — строгі запаведнік прыроды, найважнейшы аб'ект БПН, са шматлікімі курганамі з ранняга Сярэдневякоўя, слядамі па меляшах XVIII ст., бортнымі дрэвамі, даўнімі кармавымі палянамі і месцам (квартал 375), на якім існаваў каралеўскі звярынец. Сваю гісторыю мае таксама ўрочышча „Брыкі", у якім у 1831 г. адбылася сутычка паўстанцаў з расейскім канвоем. Варта спыніцца і на г.зв. „царскай трапіне", па якой рухаўся падчас палявання цар Мікалай II. Сляды з часоў II сусветнай вайны — гэта партызанская зямлянка, што на багнах у 254 квартале, магілы, у якіх спачывае навечна каля 200 чалавек, застрэленых немцамі, і помнік ля Броўскай дарогі, увекавечваючы памяць расстраляных немцамі 222 чалавек. Выходзячы з запаведніка, варта глянуць яшчэ на дубовыя вароты, выкананы ў 1930 г. (падобныя вароты знаходзяцца ў найстарэйшым зубрагадавальніку, што ў квартале 421).

Вандроўку аўтар кніжачкі спыняе ў пасяленні Звярынец, што ў паловe дарогі з Гайнаўкі ў Белавежу. Тут жыў некалі царскі лоўчы. Тут таксама нарадзіўся вядомы польскі пісьменнік Ігар Нэверлі. І тут стаяў да 1915 г. помнік зубру, на памяць аб паляванні цара Аляксандра II у 1860 г. Помнік гэты зараз знаходзіцца ў Спале.

Ч. Аколаў, апісваючы паасобныя аб'екты, як з рукава сыпле рознымі цікавінкамі. Пісанае слова ілюструюць вельмі цікавыя і нярэдка ўнікальныя здымкі і рэпрадукцыі Яна Ежы Карпінскага і Анджэя Кэчынскага. Бачым на іх і царскі палац, і даўні Паляўнічы дом, і колішнюю электрастанцыю...

Таму, хто хацеў бы больш падрабязна пачытаць аб справах закранутых у кніжачцы, даецца спісак адпаведнай літаратуры. Чытач знойдзе таксама кароткую зводку аб БНП і план Палацовага парку, даступнага для наведвання без экскурсавода.

Кніжачка выйшла тыражом у 1000 паасобнікаў. Выпусціў яе Белавежскі нацыянальны парк пры грашовай дапамозе Нацыянальнага фонду аховы асяроддзя і воднай гаспадаркі ў Варшаве. Паралельна паявілася англамоўная версія гэтага выдання, а неўзабаве выйдзе пераклад на нямецкую мову.

**Пётр Байко**

*З гісторыі беларускага нацыяналістычнага руху на Беласточчыне*

**Niezadowolenie i petycja parafian**

Dziwne rzeczy dzieją się na terenie Gminy a szczególnie miejscowości Gródek. Osoby duchowne podają nierzetelne, nieprawdziwe wyjaśnienia dla prasy. W Tygodniku Białoruskim "Niwa" Nr 43 z 23.10.94 r. w artykule "Sprawa Mieleszki" umieszczono wypowiedź następującej treści w przetłumaczeniu: "Ja nie spotkałem się z tym aby ktokolwiek z moich parafian liczył siebie prawosławnym Polakiem. Ja także prowadzę nabożeństwa po białorusku i popularyzuję rodzoną mowę na lekcjach religii, rozmawiam z parafianami — dziwi się proboszcz Gródeckiej parafii ojciec Ostapczuk". My parafianie byłego wyznania katolickiego i innych z rodzin mieszanych takim oświadczeniem jesteśmy zaskoczeni. Stąd też stanowczo stwierdzamy, że urodziliśmy się w tym kraju, związek małżeński zawarliśmy w cerkwi, uczęszczamy wraz z dziećmi na nabożeństwa jesteśmy tylko i wyłącznie Polakami prawosławnymi. Nikt włącznie z proboszczem nie może wmawiać nam białoruskości skoro takimi nie jesteśmy. Od dawnych czasów wszyscy na tym terenie rozmawiają po prostu nawet katolicy i taką gwarę należy przedłużać i kontynuować. W/g naszego rozumowania nie musi być stosowany przymus przeprowadzania nabożeństw po białorusku. Czysty białoruski winien być propagowany i nauczany w szkołach jako język obcy. W związku z powyższym prosimy Jego Ekscelencję arcybiskupa Sawę o spowodowanie sprostowania niewiarygodnych wypowiedzi proboszcza Ostapczuka Gródeckiej parafii prawosławnej przekazanych do Tygodnika Białoruskiego "Niwa".

Z poważaniem
para fianie prawosławni z Gródka.

Podpisy.

**Ад рэдакцыі:** Ліст быў дасланы ў канцылярыю Архіепіскапа Беластоцка-Гданьскага Уладыкі Савы.

## ДВУХЛІТАРНАЯ КРЫЖАВАНКА

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | | 2 | | 3 | | 4 |
| | ▒ | 5 | 6 | | ▒ | |
| 7 | 8 | ▒ | | ▒ | 9 | |
| | 10 | | | | | |
| 11 | | ▒ | | ▒ | 12 | 13 |
| | ▒ | 14 | | 15 | ▒ | |
| 16 | | | | 17 | | |

**Гарызантальна:** 1. мэбля для ляжання або сядзення, 3. горад над Віслай, 5. загана, 7. агародная караняплодная расліна, 9. жаночае імя, 10. стэнаграфічны запіс, 11. белы клён, 12. графічны знак музычнага запісу, 14. там нясуцца куры, 16. бакоўка ў вясковай хаце, 17. напр. жывапісец.

**Вертыкальна:** 1. невялікі рэстаран з эстрадай, 2. Ян Павел II, 3. адзін рух нагой, 4. карэспандэнтка „Нівы", 6. распаўсюджванне палітычных ідэй, 8. пратэстанцкі святар, 9. японскае адзенне, 11. жыхарка Явы, 13. лесапільны завод, 14. жоўты, лёгкі на загаранне хімічны элемент, 15. будысцкі манах.

**(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 52 н-ра:**

**Гарызантальна:** памост, бяроза, аркада, Кама, маса, рэцыдывіст, Вена, Акад, матыка, касцяк, расход.

**Вертыкальна:** пастка, „Стар", бяда, завеса, каардынаты, марэна, мастак, вестка, адыход, маяк, кара.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Галене Тапалянскай** з Трасцянкі і **Мікалаю Сазановічу** з Навінаў-Вялікіх.

## Наша пошта

**Дарагая „Ніва"**

Я вельмі ўзрадаваўся калі ў „Ніве" ад 8.01.1995 г. паявілася занатоўка інж. Барыслава Рудкоўскага пра родныя мне мясціны п.з. „Тапаграфія дарог, мастоў і гідраграфічнай сеткі". Мой выдатны сябра праводзіць вялікае даследаванне нашай роднай зямлі, культуры ды мовы — беларускай, якой мясцовы дыялект набліжаецца да ўкраінскіх гаворак. Калі я жыў у Відаве і памагаў інжынеру ў яго памерах, то дзе б мы не былі, усе гаварылі, што яны беларусы. А цяпер чытаю ў польскіх газетах, што там ужо і ўкраінцы жывуць. Калі яны туды наехалі? Даўней адзінымі ўкраінцамі ў Бельску былі толькі Леўчук і Бернат; яны асвоілі наш беларускі дыялект і гаварылі, што на Бельшчыне жывуць толькі беларусы. А цяпер чытаю ў украінскім „Гоміні", што вакол Бельска жывуць толькі ўкраінцы. Я ніколі не падумаў, што беларускія дзеячы, якія пісалі ў „Ніву" і дзейнічалі ў Беларускім таварыстве перавернуцца ў такіх заядлых украінцаў. Гаворым жа на адной мове — чаго ж гэта сябе чужацца?! Хай такія крыкуны выедуць з Бельска і там забываюць, кім яны ёсць. Тут, у Ольштыне, украінскія дзеячы пішуць пра свой народ, пра сваю крыўду, якую ім зрабіла акцыя „W" у 1947 годзе.

**Андрэй Гаўрылюк**

P.S. Я яшчэ раз хачу выказаць сваю радасць на той факт, што інж. Б. Рудкоўскі зноў з'явіўся на старонках „Нівы". Ён, як вядома, ніколі з „Нівай" не развітваўся, так як рабілі М. Панфілюк і В. Петручук, а цяпер зноў вярнуліся. Думаю, што гэта добры прыклад для тых, якія спынілі пісанне. Бярыцеся за пяро, каб на з'езды карэспандэнтаў, так як калісь, прыязджала па 30 асоб.

## ВЕР-НЕ-ВЕР

Астроне! Сніцца мне, што знаходжуся я ў вялізнай зале, як бы ў бальніцы, але хворых не бачу, мэбля нейкая канцылярская. Уваходжу ў пакой, а там сядзіць жанчына. І тут усведамляю сабе, што я згубіла шлюбны пярсцёнак. Пытаю ў гэтай жанчыны, ці не бачыла яго. Яна адказвае, што не бачыла. Я накіроўваюся да дзвярэй, а жанчына крычыць за мной, што ёсць пярсцёнак, на стале ляжыць. Я вярнулася, узяла пярсцёнак у руку і выйшла. Захацела яшчэ глянуць на гэты пярсцёнак, а ў руцэ ўжо не пярсцёнак, а тры бранзалеткі — сярэбраныя, бліскучыя, вельмі прыгожыя. Палажыла я іх у кішэнь, а яны звоняць. Іду, а людзі аглядаюцца за мной, кажуць: „Пэўна, ксёндз ідзе, званочкі ж звоняць..."

А вось яшчэ сон майго знаёмага. Ён на вёсцы, паблізу лесу. Рос там вялікі ясень. Знаёмы са сваім сваяком гэты ясень зрэзвалі. Парэзалі на кавалкі яго, бо патрэбны яны былі да воза. Стаяць яны пры гэтым парэзаным дрэве, а тут леснікі ідуць. Яны спужаліся, што іх заўважаць, але леснікі прайшлі побач і пайшлі далей.

**Кацярына**

Кацярына! Ці ты не збіраешся выходзіць замуж?! Бо твой сон сведчыць аб тым, што напаткае цябе нешта добрае, будзе стабілізацыя (аб гэтым сведчыць тая быццам бальнічная зала, у якой апынулася ты). Ты губіла і знаходзіла шлюбны пярсцёнак (вяселле), а ўрэшце высветлілася, што ў тваёй руцэ ляжаць тры бранзалеткі, ды вельмі прыгожыя. А гэта ж абазначае, што, можа, неўзабаве возьмеш шлюб.

Што датычыць сну твайго знаёмага, дык ён нядобры. Прадвяшчае яму нейкую страту (зрэзанае дрэва). Дарма ўцешыўся, што леснікі яго не заўважылі.

**Астрон**

*Калісьці сялянам раілі*

## Люты ў гаспадарцы

Трэба дбаць аб цяплыні ў хлявах, а ў марозныя дні паіць жывёлу падагрэтай вадой. Чысціць коміны, бо ў час часцейшага палення ў печах накапляецца многа сажы і хутка можа ўзнікнуць пажар. Даглядаць капцы і ямы з агароднінай і бульбай.

Вывозіць частку гною ў поле і ўкладваць яго ў вялікія штабелі. Неадкладна купіць неабходныя штучныя ўгнаенні.

Перагледзець сельскагаспадарчыя машыны. Адрамантаваць іх. У садзе чысціць кару фруктовых дрэў і бяліць вапнай. Даглядаць хатнюю птушку. Перагледзець запас корму і адпаведна да гэтага карміць жывёлу.

На сухіх глебах задбаць аб затрымцы і накапленні багатых снегавых ападкаў, перш за ўсё на азімых пасевах, дзеля захавання вільгаці на час вясны. Снегапад можна затрымаць, між іншым, шляхам кладзення хворасту, згортвання снегу ў бязладныя купіны на палетках з азімінай.

Доўгія зімовыя вечары жанчыны павінны выкарыстоўваць для вышывання і іншых ручных работ.

**Ясень**

## Зіма — люты

Люты ваду падпусціць —
сакавік падбярэ.
Віхры і мяцелі ў лютым наляцелі.
Грамніцы — палавіна зіміцы.
Як на Грамніцы
нап'ецца певень вадзіцы,
то на Юр'я наесца вол травіцы.
Калі люты марозны —
лета гарачае.

## Прыказкі і прымаўкі аб вадзе

У гарачай вадзе купаны.
Утапіць у лыжцы вады.
Кроў — не вада.
Пакуль сонца ўзыдзе —
раса вочы выесць.
З вялікай хмары — малы дождж.
Ціхая вадзічка грэблі рве.
Рэшатам вады не наносіш.
Пад ляжачы камень вада не пацячэ.
Падобныя, як дзве кроплі вады.
Грошы ідуць, як вада.

**Прыказкі выбраў**
**Янка Целушэцкі**

## Парады гаспадыням

Пах селядца і цыбулі з металічных прадметаў лёгка выдаліць, калі пацерці іх анучкай, змочанай у воцаце або алею.

* * *

Плямы ад піва з тканіны добра выдаляюцца мыльнай вадой з дэнатуратам.

* * *

Калі цёплы тлушч разліўся на падлогу, яго трэба адразу заліць халоднай вадой: тлушч застыне і лёгка здымецца нажом.

* * *

Для захавання солі, цукру, чаю, тытуню ад вільгаці на дно посуду, у якім знаходзяцца гэтыя прадукты, трэба пакласці некалькі лісткоў прамакальнай паперы.

* * *

Каб скураны абутак не ціснуў, змачыце яго ўнутры спіртам або адэкалонам і надзеньце.

* * *

Калі распальваюць сырыя дровы, іх паліваюць газай або бензінам. Але ж гэта небяспечна. Насыпце жменю буйнай солі на дровы і яны ярка ўспыхнуць.

* * *

Заржавелую паверхню пліты добра працерці гарачым алеем і яна зноў заблішчыць, як новая.

**Ясень**

*АЛЕСЬ ФІЛІПОВІЧ*

* * *

маўчанне — золата, калі
ты знайшоў скарб: у зямлі,
у хаціне з пабітымі шыбамі, дзе знік і след
гаспадарства, ці, у рэшце рэшт,
танныя пацеркі, што ўпалі з неба табе да ног —
не пакваліўся Бог.

У астатнім — маўчаць — абражаць
цішыню, няхай камяні маўчаць,
а ты бі языком аб зжаўцелыя зубы, нясі лухту,
дзьмі ў жалейку з вясновага лазняку — тут
і там, у натоўпе, адзіноце, у сне,
палохай варон, хай твой лямант гучыць мацней за грымоты, адно не сціхай,
плач
па няспраўджаных дыяментах, — інакш
не паверыць ніхто, што ты з дому насупраць,
свойскі, тутэйшы, што
ў кішэні тваёй не болей, чым за душой.

Ніва

"Niwa"
ul. Suraska 1, 15-950 Białystok,
skr. poczt. 149, tel. 210-33.

Druk: "ORTHDRUK", Białystok,
ul. Składowa 9.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Міранoвіч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:**

**Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".**

Prenumerata.

1. Termin wpłat na prenumeratę na II kwartał 1995 r. upływa 20 lutego 1995 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały "Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na II kwartał wynosi 6,50 zł (65 000 starych zł).

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Warszawa, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa.

Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 1,10 zł (11 000 st. zł), a kwartalnie — 14,30 złotych (143 000 st. zł). Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika "Niwa", Białystok, ul. Suraska 1, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 370406-207917-132.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

# Пародыі

*Гляджу я небу пад сукенку,*
*аж шапка на зямлю упала,..*
**(Алесь Барскі,**
**„Гляджу я небу пад сукенку")**

Гляджу я небу пад сукенку,
на белых воблакаў карункі,
як на нявінную паненку.
А ў галаве клубяцца думкі...

Як Ікар, я хачу на крылах
падняцца ўверх палётам шпаркім
і над ружовым небасхілам
цыцатую памацаць хмарку.

Лічу вароны я цярпліва
і сярод іх шукаю месца
каб з імі паляцець у вырай
пагладзіць па нябёс каленцах.

Каўтунчык цёмны пешчу вокам...
А кроў кіпіць, гарыць пажарам...
Аж тут маланка з-пад сарокі
Мне белай шапкай на лоб упала.

**Адам Маньяк**

# НІЎКА

"Мофтул роман" (Бухарэст)

# АД ГАРЭЛКІ РОЗУМ МЕЛКІ *)

* * *

— Кажуць, ты, Іван, гарэлку п'еш дужа часта.

— Частавата, — прызнаўся Іван і дадаў: — Я ўжо даўно хацеў кінуць піць, але няможна ніяк. Вось і ўчора: іду каля закусачнай, а галава баліць, аж разломваецца. „Нізашто не пайду", — сказаў я сам сабе. Затым прайшоў і падумаў: „Глядзі, якая ў мяне галава харошая. Сказаў „не пайду" і не пайшоў. Як не палячыць такую галаву". Вярнуўся да закусачнай і выпіў дзвесце грамаў.

* * *

Двое п'яных падышлі да вялізнага дома.

— Адсунем? — пытаецца адзін.

— Давай, а то на нашу вуліцу прайсці не дае.

Пнуліся яны, пнуліся, аж узмакрэлі, а дом ні з месца.

— Распранёмся?

— Угу.

— Раз-два, узялі! Раз-два, узялі!

Раптам адзін з іх аглянуўся.

— Ну і далёка адсунулі, — гаворыць ён другому, — ужо і адзежы нашай не відаць.

* * *

Аднаго разу прыходзіць п'яны муж дамоў. Жонка, глянуўшы на яго, спытала:

— Ты ўжо, напэўна, і розум прапіў?

— Не-э-э, д-д-даражэнькая, толькі грошы.

* * *

— Чаму гэта ты так многа гэтай гарэлкі п'еш?

— Як многа? Я толькі адну чарку выпіў!

— Дзе адну?! Калі ты пры мне ўжо ажно дзесяць выжлукціў!

— Дзіўны ты чалавек. Калі я выпіваю другую чарку, дык раблюся зусім другім чалавекам, ну, а другому чалавеку таксама ці ж не трэба выпіць?!

* * *

П'яны заснуў на дарозе і не чуў, як у яго сцягнулі з ног боты.

Едзе фурман і крычыць:

— Прымай ногі!

А п'яны, зірнуўшы на свае босыя ногі, адказвае:

— Едзь, браце, смела! Гэта не мае, мае ў новых ботах.

---

*) *З аднайменнага зборніка, які выйшаў у Менску ў 1988 г. у выдавецтве „Мастацкая літаратура".*

# Думкі ўслых

* Не адкрывай акна на свет. Там магло быць больш душна.

* Гальштукі прыдумалі толькі дзеля таго, каб было што купляць мужчынам у падарак.

* Шырокія думкі ўспрымаюцца часам як прабелы ў развабаннях.

* Вывучаючы чужую мову, вучымся размоў, якіх не было, каб мець магчымасць удзельнічаць у размовах, якіх не будзе.

* Пасяліўся ў горадзе — там не вывядуць яго ў поле.

* Праклінай як мага часцей, а тады не будуць у цябе тырчэць вушы. Яны павянуць.

* Ты не прасі прабачэння! Ты больш не еш гарохавага супу з часнаком.

**Адам Сяменчык**

# БАРТЭР

Калі без грошай ты сядзіш,
Адчайвацца не варта.
У гэтым разе ёсць адзін
Выратавальнік —
Бартэр.
Ты, скажам, чарку мне нальеш —
Плачу я агуркамі.
Я вып'ю, ну а ты зап'еш —
І Бартэр паміж намі.
Табе даю я чаравік —
Ты мне даеш шкарпэтку.
Табе даю я, скажам, цвік,
А ты мне — табурэтку.
Вунь, бачыш, нават у бары
Пайшла на Бартэр мода.
Мядзведзь мяняе пень стары
На новую калоду.
Мяняе нейкі конь авёс
На вязку канюшыны.
А гаспадар ягоны —
воз
Мяняе на машыну.
Ды выхад ёсць.
Як бачыш, ён
Не ў тым грашовым свербе —
Што у цябе — усё маё,
Маё ж — тваё, павер мне.
Мяняй карову і каня,
Што міла і не міла.
Мяняй авечку на шчаня,
Мяняй на мыла шыла.
...Няма каня,
Няма шчаня...
Мяняць, мяняць... Ану іх!
Глядзіш, і жонку абмяняць
Аднойчы прапануюць.
Дый маніць грош, як і маніў.
Ён, як і факт, упарты.
Я думку думкай замяніў —
І ўвесь на гэтым Бартэр.

**Казімір Камейша**

*ЮРКА ЗАДОЯ*

# Падкова на шчасце

Хто не ведае, што калі знойдзеш падкову, то гэта на шчасце. Што-што?.. Старая баечка? Я таксама сумняваўся, а цяпер — не!

Атрымаў нядаўна зарплату. Трохі выпілі з сябрамі, трухаю дадому. У кішэні добра адчуваецца скрутак грошай. Аж бачу — на пераходзе бліскучая адпаліраваная да бляску конская падкова.

— Трэба праверыць наконт падковы на шчасце! — падумаў я і паклаў падкову ва ўнутраную кішэню пінжака. І іду далей. Ужо дайшоў да свайго дома, як з-пад аркі выскачыла тройка хлопцаў-акселератаў наперарэз.

— Кашалёк на бочку, дзед! — камандуе іхні галоўны завадатар.

— Каму? Вам? Ды ў вас жа яшчэ і малако на губах не абсохла, а і вы ўжо туды ж.

— Не каркай, дзед, а то яшчэ і раздзенем! — кажа другі.

— Ну, не гарачыся, — кажу, бо бачу, што тут сапраўды не да жартаў. Зараз пагляджу, ці ёсць у мяне тыя грошы.

— Ёсць! Вунь як адтапырваецца кішэня!

— Хіба ж гэта грошы, хлопчыкі — добрыя малайцы? — кажу і шась не ў левую, а ў правую кішэню. Выхапіў падкову і...

— Ну! Каму даць?!

Усіх траіх як ветрам здзьмула. Вось і не вер пасля такога ў прыкметы... Падкова ў наш час — вельмі надзвычайная рэч.

*Пераклаў з украінскай мовы Валеры Бабей*

Мал. Іаанны Рамашкі

# Сардэчныя тайны

Дарагое Сэрцайка!

Выйшла я замуж з вялікага кахання і жылося нам разам спакойна і добра. Гадавалі двое дзетак, нажывалі памалу ўсё, што ў хаце патрэбнае. Не былі матэрыялістамі, не гналіся за вялікім багаццем, але ўсё, што нам было патрэбна ў жыцці, мелі. Шчасце парушыла неспадзяваная смерць мужа. Калі я аўдавела, не было мне яшчэ сарака. Засталася я з дзеткамі адна, як палец. Блізкай сям'і ўжо ў мяне няма. Усё гэта здарылася ў тыя гады, калі ў нашай Польшчы адбываліся перамены. Нялёгка мне было знайсці работу. Дагэтуль я займалася домам і дзецьмі, а муж працаваў, дык стала я жыць на скромную рэнту па мужу. Гора-горам, а жыць — хто астаўся — трэба было далей.

Пачалі мне знаёмыя і суседзі раіць, каб я разглянулася за другім мужчынам, бо, вядома, удваіх будзе лягчэй і весялей. Ды і дзеці — пакуль меншыя — лепей прымуць другога бацьку.

Ну, і прыслалі мне ў сваты нават нябрыдкага на выгляд „хлапца". „Хлопец" аказаўся разведзены, але па яго расказах, вельмі пакрыўджаны жонкаю. Плакаў і расказваў мне, якое пекла перажыў ён з ёю. У мяне мяккае сэрца, ды наіўнае. Я яму паверыла, і ён хуценька перайшоў з кватэры жыць у нашу хату. Адразу стала мне лягчэй і весялей на душы, але ненадоўга. Прайшло пару месяцаў, і мы паехалі на вяселле да яго радні. Там мой друг добра напіўся, а я адубела ад таго, што ён пачаў выгаварваць на мяне і маіх дзетак. Я хацела адразу яго пазбыцца, але мой характар не настойлівы. Ён так перапрашаў, што я ўступіла, паверыла, што ўсё гэта з-за гарэлкі, і дала яму шанц, пра які ён мяне маліў. Ну, і жывем мы ўжо больш трох гадоў. Мой мілы не мінае ніводнай нагоды да выпіўкі, сам не раз круціцца, толькі каб знайсці месца і напіцца, ну і ўсё паўтараецца. Брыдкія словы сыплюцца, як з рукава, прабуе біцца, хацяя яго да гэтага не праваку́ю. Міне гэта ўсё — падае на калені, моліцца, хрысціцца, што так больш не будзе, просіць прабачэння. Але толькі да наступнага разу.

Абрыдла мне такое жыццё. Няма спакою, ніякай палёгкі, а колькі сораму ад людзей, ды як крыўдна за дзяцей, што і ім такога чалавека прыняла ў хату. Думаю, як яго пазбыцца. На мае словы не рэагуе, сілай з хаты не выкіну, бо ён мацнейшы, у паліцыю ісці сорамна. І ўсё толькі плачу і плачу, за што мяне Бог пакараў. Парай мне, Сэрцайка, як цікім спосабам пазбыцца чужога чалавека, які, замест памагчы нам у жыцці, робіць яго невыносным.

**Лёля**

Даражэнькая Лёля! Твая пастава мне не надта зразумелая. Ты хочаш пазбыцца гэтага чалавека з хаты „ціхім спосабам", каб не было крыку, паліцыі, каб не чулі і не бачылі суседзі?! А якая ж табе розніца — і так усе яго добра ведаюць!

І так той-сёй падсумуе, што гэта ён цябе кінуў, а што яшчэ пры гэтым людзі дададуць!..

А можа, гаворачы пра „ціхі спосаб", ты думала, як элегантна пазбыцца гэтага цяжару? Дык мо варта выбраць момант, калі твой „друг" будзе цвярозы, і растлумачыць яму, што не бачыш сэнсу далейшага супольнага жыцця з чалавекам, якога ты перастала не толькі кахаць, але і шанаваць. Добра было б пры гэтым мець моцныя аргументы, як хаця б новага мужчыну. Ведаю, ведаю: адкуль яго ўзяць?.. Але мог бы быць нават твой фіктыўны кавалер, абы падзейнічала.

Маю надзею, што ты свайго нібы-мужа не прапісала ў сваёй хаце.

**Сэрцайка**